 




# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 8(103) Жнівень 2002 August Год выд. 10.


## Маскве Лукашэнка патрэбны паслухмяным і недарагім у эксплюатацыі



Уплывовы польскі тыднёвік Newsweek Polska апублікаваў артыкул "Кананьне Саюзу Беларусі й Расеі". Аўтары матэрыялу - Міхал Кацэвіч зь Менску й Анджэй Зауха з Масквы - робяць выснову, што будучыня Аляксандра Лукашэнкі ў руках Уладзіміра Пуціна, і калі расейскі прэзыдэнт спыніцца й ня дасьць Беларусі грошай, краіну чакае катастрофа.

Матэрыял у польскім "Newsweek" пачынаецца вялікім здымкам Аляксандра Лукашэнкі ў хакейнай форме, з подпісам: "Лукашэнка гуляе ў хакей нават летам, займаецца бегам, але нічога не разумее ў палітыцы і гаспадарцы".

Далей аўтары распавядаюць пра незайздросны стан беларускай эканомікі, пра стратныя прадпрыемствы, састарэлыя тэхналёгіі, велічэзную інфляцыю, з чаго робяць выснову, што краіна трымаецца толькі дзякуючы танным расейскім энэрганосьбітам, сьпісаньням Масквою шматмільённых даўгоў, на што ішоў Пуцін, спадзеючыся на хуткае аб'яднаньне зь Беларусьсю выключна на сваіх умовах.

Пуцін першы раз так рашуча адмежаваўся ад усіх задумаў Лукашэнкі. Найперш яму не спадабалася ідэя скліканьня супольнага расейска-беларускага парлямэнту, у якім Менск мог бы гаварыць ня тое самае, што Масква. Пуцін уцёр нос Лукашэнку, ставячы таго перад фактам, што, калі Беларусь хоча інтэгравацца з Расеяй, то можа ўвайсьці ў РФ у якасьці звычайнай рэспублікі. Для хваравіта амбіцыйнага Лукашэнкі гэта было занадта - не пра такую інтэграцыю ён марыў. Ён хацеў быць роўным Пуціну, а той прапанаваў яму месца звычайнага губэрнатара звычайнай рэспублікі Расейскай Фэдэрацыі. Расейскі прэзыдэнт адплаціў беларускаму тым, што не завітаў у Беларусь, вяртаючыся з саміту "васьмёркі" ў Канадзе, а абмежаваўся накіраваньнем у Менск мала- значнага палітыка Яўгена Прымакова, шэфа Гандлёва-прамысловай палаты.

Афіцыйная дыпламатыя старалася разладаваць напругу, сьцьвярджаючы, што нічога ня здарылася, але нават не заангажаваныя ў палітыку людзі зразумелі, што ў чэрвені Расея адвярнулася ад Лукашэнкі. Расея ня прыме ўмовы Беларусі ўвесьці адзіную валюту, таксама яна будзе выступаць супраць Саюзнага парлямэнту. Крэмль ня хоча самастойнасьці Беларусі, а хоча бачыць Беларусь у якасьці падпарадкаванай Маскве рэспублікі.

Масква зацікаўленая ў такім Лукашэнку, які адкрые свае рынкі расейскім таварам і будзе кіраваць сваім фальваркам настолькі спраўна, каб за яго ныя штукі не прыйшлося расплочвацца з маскоўскай касы. Пуцін сказаў дастаткова катэгарычна: маюць значэньне толькі грошы. Прэзыдэнт Расеі не намераны ў імя ідэалаў славянскага братэрства ўтрымліваць хворую эканоміку Беларусі. Яго таксама раздражняе неакрэсьленасьць у справе ўвядзеньня адзінай валюты.

Беларускі рубель мусіў паступова выцясняцца расейскім. Новая валюта мусіла канчаткова заняць месца "зайчыкаў" да 2008 году. Фінанасаваньне гэтай апэрацыі цалкам узяла на сябе Масква, для якой гэта вялікі цяжар. Ужо цяпер расейцы на стабілізацыю беларускага рубля даюць штогод 100 мільёнаў даляраў. Пуцін згадзіўся на такое вырашэньне праблемы, але яго ныя лібэральныя дарадцы - прыкладам, міністар Герман Грэф - зь цяжкасьцю прымаюць такое рашэньне, хоць, зь іншага боку, прызнаюць, што ў агульнай валюце бачаць адзіную магчымасьць цывілізаваньня гандлю паміж дзьвюма краінамі.

Цяпер 80% таваразвароту паміж Беларусьсю й Расеяй - гэта безнаяўны бартэр. Магчыма, Лукашэнка выйграў бы барацьбу за новую валюту, калі б ня рост яго ных амбіцыяў. Прэзыдэнт Беларусі паставіў жорсткую ўмову: будуць два эмісійныя банкі, у Менску й Маскве. Але расейцы не паддаліся на падман, Масква не дае грошай Беларусі з чыстага альтруізму.

Да апошняга часу расейскія ўлады спадзяваліся, што Лукашэнка згодзіцца хутка аб'яднацца на ўмовах Масквы. Крэмль проста заяўляе, што згаджаецца на супрацу, але не прызнае за Беларусьсю тых жа правоў, што за сабою. Таму сам дыктуе ўмовы. Для Масквы найвыгаднейшым быў бы такі саюз, пры якім беларускі прэзыдэнт размаўляў бы найменш, а гурт крамлёўскіх лібэралаў мог бы ўзяцца за рэфармаваньне беларускай эканомікі.

У Крамлі хацелі б бачыць Беларусь падпарадкаванай Маскве рэспублікай, але з моцнай эканомікай. Аднак найперш Беларусь мусіць праводзіць такую палітыку, якую цяпер праводзіць Расея - прыязнае стаўленьне да Захаду. А заўсёды пасвараны з Амэрыкай і НАТО Лукашэнка ня ўпісваецца ў гэтыя пляны. (R.R.)

## У Польшчы хочуць дыялога з беларускімі ўладамі

Камітэт па міжнародных справах польскага сейма выступіў за пашырэнне дыялога з беларускімі ўладамі. Камітэт прыняў дакумент, у якім, у прыватнасці, сцвярджаецца, што "новая міжнародная сітуацыя, а таксама традыцыйныя сувязі паміж Польшчай і Беларуссю схіляюць да паступовага пашырэння палітычнага дыялога з беларускімі ўладамі".

Паводле меркавання камітэта, гэта будзе служыць "умацаванню незалежнасці Беларусі, фарміраванню дружалюбных і плённых адносін паміж нашымі краінамі". Акрамя таго, такая палітыка будзе "садзейнічаць захаванню правоў польскай нацыянальнай меншасці і выкананню правоў чалавека ў Беларусі".

Камітэт па міжнародных справах падкрэсліў неабходнасць супрацоўніцтва ў галіне эканомікі, адукацыі, культуры, у пытанні аховы межаў і ў ваеннай сферы.

Разам з тым польскія парламентарыі зноў заявілі, што "захаванне ў Беларусі недэмакратычных структур улады зьяўляецца пагрозай для міру і стабільнасці ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе".



 

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# Дошку мы павесім...

Закончылася святкаванне 120-й гадавіны са дня нараджэння Янкі Купалы. Што да гэтае даты было ў краіне прыўрочана і што зроблена? Не ўсё, што планавалася, але нямала.

Правялі ўрачысты (на ўзроўні афіцыйнай нуды) вечар у тэатры. Наладзілі некалькі цікавых юбілейных выстаў (нават у будынку МЗС). Правялі дзве змястоўныя навукова-практычныя канфэрэнцыі. У друку змясцілі партрэты паэта, апублікавалі прысвечаныя яму артыкулы, нататкі, успаміны. І па радыё ўвесь час яго імя ўспаміналася. І нават "Тутэйшых" (хоць сціснуўшы зубы) на сцэну выпусцілі. Карацей кажучы, шмат "арганізавалі і правялі юбілейных мерапрыемстваў" у гонар вялікага сына зямлі беларускай. І ў сталіцы, і ў абласных цэнтрах (праўда, не ва ўсіх), і ў многіх раёнах. Нават і за мяжой (у Маскве, напрыклад) нешта прагучала -- у сувязі... Праўда, не выйшлі запланаваныя кнігі Купалы -- 8-ы том Збору твораў, том у серыі "Беларускі кнігазбор", -- але гэта дробязь.

Так што можна сказаць -- адсвяткавалі. Адзначылі. Праз паўгода гэтак жа адзначым і юбілей Якуба Коласа. І ўцешымся: увесь свет ведае (пачуў жа!), як высока шануюцца ў Беларусі геніі нацыянальнай літаратуры, а гэта значыць -- іх Слова і іх Справа, тое, дзеля чаго яны прыйшлі ў свет і чаму прысвяцілі сваё жыццё.

А вось наконт Слова і Справы я і хацеў бы, шаноўныя чытачы, каб мы трохі паразважалі і прызадумаліся. Помнячы, што ў сапраўдных паэтаў Слова і ёсць Справа.

Успамінаю, як гадоў сорак таму, на пасяджэнні прэзідыума СП Беларусі, у адказ на папрок, што нічога не робіцца да юбілею аднаго выдатнага пісьменніка -- ні Збор твораў не выходзіць, ні манаграфія пра яго жыццё і творчасць, ні памятнай дошкі няма на доме, у якім ён жыў, -- старшыня праўлення СП тут жа перабіў прамоўцу і выпаліў: "Дошку мы павесім! Тут, не сумняваюся, кіраўніцтва рэспублікі нас падтрымае. Ну, а пра іншае -- будзем думаць, не ўсё адразу..."

І сапраўды, дошку на доме неўзабаве павесілі.

З той пары гэтае бадзёрае "Дошку мы павесім!" стала ў нас, можна сказаць, крылатым выразам, набыло больш шырокі алегарычна-сімвалічны сэнс. Ставіўся помнік на магіле выдатнага творцы, вуліца (калі не ў Мінску, дык у родным горадзе) называлася імем нябожчыка, у мясцовым краязнаўчым музеі (ці хоць у школе) куток знакамітаму земляку адводзіўся, -- і ўсё гэта падыходзіла пад сакраментальна-сімвалічнае "Дошку мы павесім". Усё гэтае рабілася з найвышэйшага дазволу і ў 60-я, і ў 70-я, і ў 80-я -- тады, калі з грамадскага ўжытку ў Беларусі была амаль цалкам выцеснена беларуская мова, калі ў гарадах, мястэчках, рабочых пасёлках рэспублікі ўжо не засталося ніводнай беларускай школы і нават беларускамоўнага класа... А што гэта значыла? А гэта значыла, што пад корань падсякалася ўся будучыня беларускай нацыі, праграмавалася поўная асіміляцыя беларусаў як самастойнага этнасу, ішло паглынанне і растварэнне іх самабытнай духоўнай і мастацкай культуры ў нетрах непараўнана дужэйшай культуры братоў-суседзяў.

"Наце вам! -- цынічна кідала "костку" начальства. -- Наце вам "Выбраныя творы" (усё роўна чытаць іх па-беларуску скора не будзе каму), наце і помнік і дошку (усё роўна і тое і другое будзе аднойчы знішчана, як ужо не раз бывала раней), наце і вуліцу (усё роўна яна будзе аднойчы перайменавана -- названа імем Суворава, ці Ландара, ці Мяснікова...). Наце, цешцеся! А вось беларускую школу не толькі ў гарадах, але і ў вёсках -- мы пастараемся дабіць канчаткова. А вось беларускую мову ва універсітэты і інстытуты, у тэхнікумы і вучэльні -- мы не пусцім, гэтак жа, як і ў дзяржаўныя ўстановы, на заводы і фабрыкі, у канторы калгасаў і саўгасаў, у армію, у спорт і г.д., і г.д., і г.д.". Так гаварыла начальства -- без слоў, моўчкі.

І дабівала. І не пускала. Дзейнічала! У духу і ў адпаведнасці...

А мы -- усенародна і ўсеінтэлігентна -- мірыліся. Мы радаваліся кінутай "костцы". Цешыліся, што хоць нешта ды перапала. Такія мы людзі: нам -- хоць бы чаго трошку, мы задаволімся і дробачкай, бубачкай, капялюткай. Вось выдалі кніжачку вершаў ці прозы, атрымаў ганарарчык за яе -- і дзякаваць Богу. Бласлявілі на рэпертками чарговы музычны опус, прынялі да выканання на радыё ці на эстрадзе -- і дзякаваць Богу. Сякая-такая прыбавачка да сямейнага бюджэту ёсць. Драбяза, вядома. У Еўропе за такое вунь бы колькі заплацілі! Але дзякаваць і за драбязу. Добра, што начальства мяне ўсё-такі не ігнаруе, і заўважае, і абяцае штоколечы. Што яно мною задаволена...

О, начальства, начальства! Беларускае, наскае, тутэйшае!..

Глядзіш на іншых "высокапастаўленых" -- і нясцерпна падмывае спытаць: "Панове, у вас жа за плячыма як мінімум універсітэт, а то і аспірантура, вы ж вывучалі гісторыю цывілізацыі і ведаеце, што такое мова ў гістарычным лёсе народа, у жыцці нацыі. Вы павінны, вы абавязаны ведаць, што "мова і народ -- сінонімы" (Ф.Дастаеўскі), што знікае мова -- знікае народ. Чаму ж вы хочаце, каб знік беларускі народ? Народ, да якога вы самі належыце, які вы прадстаўляеце? Народ, пісьмовая гісторыя якога налічвае болей за тысячу гадоў, у якога яшчэ з глыбейшай адвечнасці ёсць свая мова -- адна з самых мілагучных і з найбольш дасканала распрацаваных славянскіх моў (А.Міцкевіч). Вы ведаеце, што на гэтай мове створана вялікая, прызнаная ў цэлым свеце літаратура (магла б мець прызнанне яшчэ большае, калі б дзяржава клапацілася пра гэта так, як усе іншыя еўрапейскія дзяржавы). Вы ездзіце па замежжы, сустракаецеся з калегамі, бачыце, як яны ў сваіх краінах ажыццяўляюць дзяржаўную нацыянальна-моўную палітыку, -- няўжо на вас гэта не робіць уражання? няўжо вы не задумваецеся? няўжо да вас, прабачце, не даходзіць? Няўжо вы не адчуваеце, што інтэлігентныя, культурныя людзі ў свеце глядзяць на вашы адносіны да роднай мовы як на паталогію? Дый самы звычайны грамадзянін Еўропы не зможа зразумець такога: дзяржаўныя мужы краіны не ведаюць і не любяць мову свайго народа! Абсурд!

У маленькай незалежнай Славеніі (у 5 разоў меншай за Беларусь па насельніцтве і амаль у 10 разоў -- па тэрыторыі) няма ніякіх моўных праблем: усюды і скрозь цалкам пануе родная славенская мова -- у кожнай сям'і, у кожнай школе, ва універсітэце, у касцёле, у арміі, і канешне ж -- у кожнай дзяржаўнай установе. І які аўтарытэт мае гэтая краіна ў свеце! І які дабрабыт народа! Амаль не ўступае Францыі і Германіі. Родная мова там яднае, цэментуе нацыю і ёсць цудадзейным патрыятычным стымулам не толькі культурнага, але і эканамічнага росквіту. А дзяржаўныя мужы Славеніі любяць і чытаюць кнігі класікаў сваёй літаратуры. Яны ведаюць, разумеюць, што калі б не гэтыя вялікія майстры роднага слова -- Славеніі ўжо, напэўна б, не было, пад ціскам тысячагадовай нямецкай каланізацыі яна не адрадзілася б.

А што ж у нас, у той славянскай краіне, дзе, шаноўныя высокапастаўленыя, вядзеце рэй вы? Ну вось адзначаюцца юбілеі самых вялікіх творцаў нацыянальнай літаратуры, волатаў нацыянальнага духу -- Купалы і Коласа. А ці трымалі вы ў руках -- пасля далёкіх школьных гадоў -- іх кнігі? Ці ёсць яны ў вас дома, у вашых уласных бібліятэках? Ці чытаеце і перачытваеце іх -- хоць перад сном калі-небудзь?

Сумняваюся, шаноўныя, вельмі сумняваюся. Калі б вы іх чыталі -- іх і кнігі іншых выдатных беларускіх пісьменнікаў, -- вы б зусім іначай глядзелі на стан рэчаў у Беларусі і на лёс самой Беларусі. Вы б павярнуліся да Бацькаўшчыны тварам. Вы палюбілі б шчыра, усёй душой, беларускую мову, і пачалі б яе глыбока шанаваць і ганарыцца ёю. Абавязкова з вамі сталася б так, шаноўныя! Абавязкова! Такая ўжо цудадзейная сіла мастацкага слова. Толькі безнадзейныя няздары і круглыя ідыёты могуць -- пасля кніг Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Чорнага, Крапівы, Мележа, Куляшова, Танка, Панчанкі, Караткевіча, Ларысы Геніюш -- заставацца абыякавымі да лёсу Беларусі і беларушчыны, да лёсу вялікай мовы нашай старажытнай зямлі.

І вы зразумелі б, што любіць і шанаваць сёння такіх сыноў Беларусі, як Купала і Колас, -- значыць змагацца за правы беларускай мовы, за тое, каб яна стала сапраўды дзяржаўнай у рэспубліцы (як гэта было ў 1990--1994 гадах), бо толькі гэта -- адзіны рэальны шлях яе выратавання. Усё астатняе -- або цынічнае, подлае хітраванне, або -- звышнаіўнасць, каб не сказаць мацней. Вы зразумелі б, што галоўны наш абавязак перад памяццю Купалы і Коласа -- змагацца за тое, чаму пакляліся яшчэ ў маладосці і прысвяцілі ўсё сваё свядомае жыццё яны, -- за свабодную, незалежную дэмакратычную Беларусь.

Гэта -- галоўнае. Без гэтага ўсё кончыцца тым, што аднойчы і юбілеі вялікіх адзначыць нам не дазволяць. Вялікія будуць перахрышчаны ў "ворагаў народа" -- як гэта было на пачатку 30-х, калі замучаны допытамі ў ГПУ вялікі Купала зрабіў сабе харакіры. Калі найвялікшага беларуса Францішка Скарыну абзывалі ў друку абскурантам-манахам, рэакцыянерам і цемрашалам.

І тады ўжо... Тады ўжо нават і дошку на сцяне не павесяць.

2002, ліпень.

***************************************************************

# Думка-стрэмка

**Ніл ГІЛЕВІЧ** (Н. Воля)

Урадавая камісія па стварэнні Дзяржаўнага Гімна Беларусі завяршыла працу. З пяці варыянтаў, прапанаваных рабочай групай камісіі, пасля іх практыкі ў эфіры адабраны адзін -- твор "Мы -- беларусы -- мірныя людзі". Музыку яшчэ ў 40-я гады напісаў Н.Сакалоўскі, а тэкст у плённым, цесным і гарачым супрацоўніцтве з нябожчыкам М. Клімковічам стварыў удзельнік конкурсу У. Карызна. Такім чынам, гімн, можна лічыць, ёсць. Як было заяўлена афіцыйна, з 3 ліпеня супакоеныя, нарэшце, грамадзяне Беларусі пачнуць яго слухаць кожны дзень: хто не ашчасліўціца, праснуўшыся гонарам, уранку -- зможа пачуць яго і ашчасліўціца апоўначы.

У недзяржаўных сродках масавай інфармацыі ўжо была дадзена агульная ідэйна-эстэтычная ацэнка як тэксту (пустаслоўная непісьменная балдавешка, у якой і да сэнсу не дабрацца і паэзіі днём з агнём не знайсці), так і мелодыі (тыповы бравы мажор эпохі сталінізму -- у духу "жить стало лучше, жить стало веселей"). Не пагадзіцца з такою ацэнкай проста немагчыма. Асабліва разумею тых, хто "прыйшоў у захапленне" ад тэксту. Як кажуць, у падобным выпадку, у нашым баку: хоць стой, хоць падай! Ад пачуцця абразы, якая нанесена здароваму і палітычнаму, і мастацкаму густу. Чакалі Гімна Беларусі, а атрымаем: "Слаўся народаў братэрскі саюз!" -- г.зн. гімн нейкага саюза народаў, трэба думаць -- Беларусі і Расіі. Чакалі праўдзівага слова пра лёс Бацькаўшчыны, а атрымаем: "Шчыра працуем, сілы гартуем мы ў шчаслівай вольнай сям'і". Ну, вядома ж, і ў шчаслівай, і ў вольнай! У свеце шчаслівейшай няма!..

Успамінаецца адна беларуская показка. Вярнулася вясковая бабуля з горада, ад пляменніцы, у якой была на хрэсьбінах, і расказвае сваёй сяброўцы-суседцы: "Добрае дзіцятка, дзяўчынка, і гожанькая, і здаровенькая, ужо два месяцы скора...". -- "А чаму ж толькі цяпер хрэсьбіны -- аж праз два месяцы?" -- пытае суседка. "Дык жа бацькі надта доўга імя выбіралі". -- "І якое ж выбралі?" -- "Піндуля!".

Ну вось такую "піндулю" падсунулі ў якасці тэксту гімна члены Дзяржаўнай камісіі (прафесіяналы ў галіне музыкі і літаратуры). Радуйся і спявай, народ! Ты лепшага не заслугоўваеш. Церпіш усё, што творыць на тваёй зямлі ачмурэлы рэжым, -- цярпі і "піндулю". Гэта не самая вялікая на сёння твая бяда, народзе, калі на кон пастаўлена -- быць ці не быць тваёй дзяржаве...

Будуць людзі спяваць і "піндулю". Асабліва натхнёна і выразна, з патрыятычным пачуццём гонару за беларускую паэзію, будуць выводзіць:..

*Горда свяціся ў яснае высі,*
*Сцяг пераможны -- радасці сцяг!*

Раней было так:

*Горда ж узвіся ў светлыя высі,*
*Сцяг камунізма -- радасці сцяг!*

Ну як жа не прыйсці ад такой паэзіі ў захапленне!..

***********************************************

## Анатоль Сідарэвіч:
# Дэмакратычнай, а не беларускай

"Наша Ніва"

**На пачатку лістапада мае адбыцца Зьезд інтэлігенцыі, прымеркаваны да 120-годзьдзя народнага настаўніка Канстанціна Міцкевіча. Думка пра неабходнасьць такога сходу прагучала на паседжаньні Нацыянальнага аргкамітэту па сьвяткаваньні 120-годзьдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. "НН" прапануе гутарку з Анатолем Сідарэвічам, аўтарам гэтае ідэі.**

**Анатоль Сідарэвіч:** Я прапанаваў назву "Зьезд дэмакратычнай інтэлігенцыі". А сябры Беларускага народнага фронту хацелі назваць яго "Зьезд беларускай інтэлігенцыі". Гэта два розныя падыходы… Я ня супраць назвы "Зьезд беларускай інтэлігенцыі". Але баюся, што можа зноў адбыцца сэпарацыя: "сьведамых", беларускамоўных — ад небеларускамоўнай, "нясьведамай" інтэлігенцыі. Зноў гэтыя праявы сэктанцтва! Я вельмі баюся іх, бо ўжо на гэтыя граблі наступілі ў канцы 80-х — пачатку 90-х. Болей нельга на іх наступаць.

Вельмі важна, каб у гэтым зьезьдзе ўзяла ўдзел навукова-тэхнічная інтэлігенцыя, інжынэрна-тэхнічныя работнікі, мэдыкі, пэдагогі… А ўжо як там зьезд назавецца: "беларускай інтэлігенцыі" ці "дэмакратычнай" — ня так і важна.

**"НН": А пра што пойдзе гаворка на сходзе?**

Пра стан інтэлектуальнай культуры, пэрспэктывы гэтае культуры. У нас адбываецца культурны генацыд нацыі. Возьмем сярэднюю школу. Бадай, ва ўсіх эўрапейскіх краінах дзеці вучацца ці будуць вучыцца 12—13 гадоў. Пасьля васьмі клясаў ідуць у ліцэй, гімназію, дзе ўжо арыентуюцца на пэўную прафэсію… Але ў нашай дзяржавы вобмаль грошай, яна ня можа перайсьці на такую сыстэму навучаньня. Яна ня можа аздаравіць дзяцей (а хворых дзяцей штогод больш і больш). Яна ня можа накарміць дзяцей: даць ім калярыйнае харчаваньне, багатае на вітаміны. Дзяржава ня можа даць дзецям магчымасьць адпачываць за горадам улетку. Яна адпрэчыла значную частку дабрадзеяў з-за мяжы.

Дзяржава вырашыла зрабіць прасьцей: палепшыць стан здароўя дзяцей, зьнізіўшы інтэлектуальную нагрузку. Праграмы скарацілі літаральна па ўсіх прадметах. Суботу зрабілі выходным днём. Адбываецца не "амэрыканізацыя", а дэбілізацыя. Якасьць навучаньня падае. Улада гэта і сама прызнала, калі сёлета зноў прыдумала дадатковыя льготы для абітурыентаў зь вясковых школаў, што паступаюць у ВНУ. Замест таго каб паляпшаць становішча настаўніка, заахвоціць маладых настаўнікаў з сучаснымі ведамі працаваць у вёсцы, вучням, пра якіх загадзя вядома, што ў іх слабая падрыхтоўка, даюць дадатковыя балы. Гэта ж ня выйсьце!.. Калі пачынаеш гутарыць з студэнтамі, адразу разумееш — зь вёскі ён ці з гораду. Зрэшты, і ў горадзе ня мёд: адукацыя дзяцей рабочых таксама выклікае трывогу. У нас у Менску ёсьць Заводзкі, Партызанскі раёны, дзе жыве пралетарыят. І якасьць навучаньня ў тамтэйшых школах вельмі нізкая.

Прайдзецеся па ВНУ і зрабеце апытаньне. Зь вёскі туды трапляюць дзеці настаўнікаў, лекараў, рахункаводаў, бухгальтараў, а ня тых, хто працуе зь віламі. І з гораду — ня тых, хто працуе ля станка. Вельмі малы працэнт дзяцей рабочых і сялянаў. Адбываецца элітарызацыя вышэйшае адукацыі, у нас зьяўляецца вялікі пласт людзей, што ня маюць пэрспэктывы сацыяльнага росту. Гэтая тэндэнцыя зьявілася гадоў дзесяць таму і асабліва яскрава стала назірацца падчас Лукашэнкавага панаваньня. Я кажу пра стан школы, бо гэта мне найбліжэйшае…Трэба ўзьняць і пытаньне пра інтэлектуальную ўласнасьць. У нас уласьнік, ці той, хто вырабіў нейкі інтэлектуальны прадукт, у прававых адносінах абаронены чалавек.

**Але ж Дудараву ўдалося сваім часам адстаяць правы на назву "Белыя Росы"…**

Дык што, кожны раз у судзе вырашаць такія справы?.. Урэшце, на зьезьдзе трэ будзе задаць пытаньне: "Майстры культуры, з кім вы?". Цяпер культураю кіруюць "падонкі" — тыя, хто быў на дне камуністычнае сыстэмы. Усе гэтыя Касьцяны ніколі б ня выплылі наверх пры старых парадках. Гэта нават паказальна, што былых цэкоўскіх апаратчыкаў — Сяргея Законьнікава, Анатоля Кудраўца, Алеся Жука, Валянціна Блакіта — адхіляюць ад пасад і ставяць на іх месцы людзей, якія пры КПСС—КПБ ніколі б не зрабілі кар'еры і ніколі б не сядзелі ў доме на вуліцы Маркса, 38. Неадукаваныя людзі, якія ня ведаюць спэцыфікі літаратурнае журналістыкі, не прачыталі неабходнага мінімуму тэкстаў… Няхай гэты рэжым пакірue яшчэ дзясятак гадоў — і мы зробімся абсалютнай інтэлектуальнай правінцыяй Эўропы.

**Ці не пярэчыць гэтае цьверджаньне Вашым жа словам пра элітарызацыю навучаньня?**

Але ж якасьць вышэйшай адукацыі зьніжаецца! Паглядзеце, хто працуе ў ВНУ, — пераважна людзі майго веку. Маладыя — гэта збольшага жанчыны, якія маюць забясьпечаных мужоў. А здаровыя маладыя мужчыны як раней не ішлі ў сярэднюю школу, гэтак цяпер абыходзяць і ВНУ. Пэрспэктыўныя людзі скіраваныя на эміграцыю. Я магу сьцьвярджаць, што адбываецца сьвядомае выштурхоўваньне інтэлектуалаў зь Беларусі…Сьмеху варта: у вышэйшых навучальных установах увялі школьныя дысцыпліны! Лёгіку, якую я выкладаў у ліцэі, рэлігіязнаўства, паліталёгію, курс "Правы чалавека" (у Расеі, да прыкладу, гэтыя дысцыпліны ў такім аб'ёме выкладаюцца ў школах). Гэта проста прафанацыя вышэйшае адукацыі.

З школьнага курсу выкрэсьліваюцца цэлыя разьдзелы сусьветнае гісторыі, пласты сусьветнай літаратуры. Я не кажу пра Бадлера, Малярмэ, але нашыя вучні ня будуць ведаць, хто такі Мапасан.

**А Шэкспір?**

Зь цяжкасьцю. Калі гэтак пойдзе далей, нашыя ўнукі ў параўнаньні з намі будуць вельмі неадукаванымі людзьмі, калі гаварыць пра гуманітарную падрыхтоўку. Дый нават у сэнсе матэматыкі… У прадмове да школьнай праграмы па матэматыцы зазначалася, што ейнае засваеньне не гарантуе паступленьня ў ВНУ на адпаведную спэцыяльнасьць. Тое ж было ў праграме па фізыцы, па хіміі. Каб паступіць, трэ было матэматыку, хімію, фізыку вучыць паглыблена. А цяпер і гэтую прымітыўную праграму пакарацілі.

**Але вернемся да зьезду. Чаму ягонае правядзеньне прымеркаванае да юбілею Якуба Коласа?**

Якуб Колас — прыклад дэмакратычнага беларускага інтэлігента. Народны настаўнік, які не баяўся ўдзельнічаць у нелегальных зьездах, і тры гады адседзеў за гэта ў Пішчалаўскім замку (цяперашняй Валадарцы).

**Хто будзе займацца падрыхтоўкай зьезду?**

Пайменна я пакуль не скажу. Увойдуць людзі, абазнаныя ў літаратуры, мастацтве, пэдагогіцы, мэдыцыне.

**Ці мяркуе ініцыятыўная група кантактаваць з афіцыйнымі структурамі?**

Вядома. Мы разумеем, што ў дзяржавы вобмаль грошай. Але ў такім выпадку яна не павінна душыць грамадзкую, прыватную ініцыятыву. А дзяржава паводзіцца як сабака на сене. Яна ня можа ўтрымліваць часопісы і газэты, але зрабіла ўсё, каб абваліць наклады, каб зьніклі рэдакцыйныя калектывы. На чале холдынгу паставілі чалавека, які ні дня не працаваў у літаратурна-мастацкіх выданьнях. Яму на дапамогу даюць дэмагога Новікава і трэцярадную паэтку Бондар. І прафаны даводзяць усё да ручкі. Якая падпіска на другое паўгодзьдзе на "Полымя", "Нёман", "Крыніцу", "Маладосць"? Яна страшэнна ўпала: у "Крыніцы", напрыклад, падпіска стала меншай за сто экзэмпляраў, наколькі я ведаю…

З другога боку, я радуюся, што самыя моцныя таленты не на баку гэтага рэжыму: Быкаў, Барадулін, Брыль і іншыя… Гэтыя людзі ня хочуць прымаць ад гэтай дзяржавы ўзнагародаў. Але ж дзяржава павінна задумацца. Некалі былі такія літаратары, як Стаховіч, Клімковіч, Алешка і іншыя майстры сацыялістычнага рэалізму. Ці ёсьць цяпер патрэба чытаць іх? І ў каго ёсьць такая патрэба?.. Сёньня ўлада абапіраецца на новых Стаховічаў і Клімковічаў. Яе трэба пашкадаваць.

**Ці неператворыцца зьезд у чарговую гаварыльню?**

Я б вельмі не хацеў, каб гэта было звычайнае беларускае плаканьне, пералічэньне крыўдаў і бедаў. Гэта павінна быць наступальнае, канкрэтнае, канструктыўнае дзеяньне: чым мы можам дапамагчы самі сабе і свайму народу? Трэба актуалізаваць лёзунг, неаднакроць фармуляваны Антонам Луцкевічам — "Самі сабе!", *"Pro domo sua"* (з лаціны — для свайго дому), як зваўся знакаміты артыкул у "Нашай Ніве" ў 1911 г.

**А самі Вы бачыце нейкія канкрэтныя мэтады, якія можна было б прапанаваць на гэты зьезд?**

Трэба было б проста растлумачыць народу ўлёткамі, што ня варта радавацца скарачэньню часу на навучаньне, аблягчэньню нагрузкі. Бо адбываецца дэбілізацыя школы, падае ўзровень навучаньня. Дзеці, скончыўшы школу, будуць неканкурэнтаздольнымі. Адпаведна зьніжаецца і ўзровень вышэйшае школы. Як казаў прафэсар Алег Лойка, з кожным годам усё менш інтэлектуальныя студэнты. І гэта праўда. Іншы раз за галаву хапаешся: сталічны хлопец, вырас на асфальце, а кругагляд — як у хутараніна… Во страхоцце якое! Яшчэ дзесяць гадоў таму такога не было.

**А ці зможа зьезд штосьці вырашыць, паўплываць на сытуацыю? Ці прыслухаюцца да яго?**

Ва ўсякім разе, нейкае выйсьце шукаць трэба, бо ўлада разбурае прафэсійныя саюзы ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, ствараючы на іх месцы "жоўтыя". Трэба шукаць шляхі абароны — і сацыяльнай абароны інтэлігенцыі, і абароны права чалавека на адукацыю, на карыстаньне дасягненьнямі культуры, на інтэлектуальную ўласнасьць, на ахову здароўя.

**Гутарыў Аркадзь Шанскі**

## Публікацыі аб варыянтах адхілення ад улады Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі, якія рыхтуюцца спецслужбамі Расіі — правакацыя ЦРУ і НАТО»

Публікацыі ў шэрагу расійскіх і беларускіх апазіцыйных СМІ аб тым, што быццам бы «у нетрах расійскіх спецслужбаў рыхтуюцца варыянты адхілення прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ад улады», маюць на мэце «скампраметаваць ідэю стварэння Саюзнай дзяржавы і кіраўніка Беларусі як аднаго з ініцыятараў правядзення паслядоўнай палітыкі яднання брацкіх славянскіх народаў». Такім чынам пракаменціраваў артыкул журналіста Міхаіла Падаляка «Конфиденциально», апублікаваны напярэдадні ў беларускай апазіцыйнай газеце «Свабода», намеснік старшыні Камітэта па пытаннях бяспекі Саюзнай дзяржавы генерал-маёр Іван Юркін.

Паводле яго слоў, паступаючая ў камітэт інфармацыя дае падставы меркаваць, што «у рамках доўгатэрміновай стратэгіі шэрагу вядучых заходніх краін, накіраванай на недапушчэнне адраджэння на постсавецкай прасторы моцнай дзяржавы, рэалізуюцца мерапрыемствы, мэта якіх публічна сутыкнуць прэзідэнтаў Расіі і Беларусі, каб перашкодзіць стварэнню Саюзнай дзяржавы».

Іван Юркін падкрэсліў, што гэтая стратэгія ажыццяўляецца «у адпаведнасці з распрацоўкамі ЦРУ ЗША і спецслужбаў краін НАТО і мае паэтапны характар». Яе аўтары «спрабуюць маніпуліраваць грамадскай думкай Беларусі і Расіі з мэтай унесці раскол у цвёрда намечаныя тэндэнцыі стварэння Саюзнай дзяржавы», сказаў генерал.

Ён адзначыў, што спецслужбы Беларусі і Расіі маюць сумесныя планы «бескампраміснай барацьбы з тэрарызмам і экстрэмізмам, усім тым, што перашкаджае нармальна жыць і разам ствараць моцную квітнеючую Саюзную дзяржаву».

*...А тым часам у гэн. Юркіна са страху апусьціліся штаны.*

## Святлана Алексіевіч: "Пісьменнікі Беларусі не прапаноўваюць грамадству новыя ідэі"

9 ліпеня ў Доме дружбы адбылося пасяджэнне "круглага стала" па тэме "Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму", удзел у якім прынялі вядомыя беларускія і замежныя пісьменнікі і грамадскія дзеячы. Пісьменнікі Беларусі не прапаноўваюць грамадству новыя ідэі. Такую думку на пасяджэнні выказала вядомая беларуская пісьменніца, ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЕН-цэнтра Святлана Алексіевіч. Кажучы аб драме пісьменніка, які жыве ў краіне, падобнай Беларусі, С.Алексіевіч адзначыла, што трагедыя творцы заключаецца ў вымушаным супрацiўленні палітычнаму рэжыму, што зніжае ўзровень інтэлектуальнага жыцця. "Любы таталітарызм -- імперскі, правінцыяльны, самадзейны і нават тэхнагенны -- з'яўляецца прымітыўным страшыдлам. Ён навязвае нам прымітыўныя законы ўнутранага жыцця, прымітыўную барацьбу, усё той жа падзел на "белае" і "чырвонае". Ён зжырае біялагічны час кожнага з нас і гістарычны час нацыі. Таталітарызм з'яўляецца занадта непасільнай ношай для беларускага народа, які на працягу жыцця аднаго пакалення перанёс трагедыі страху і падману сталінізму, другой сусветнай вайны, пасляваеннай разрухі, удзелу ў войнах, падобных афганскай, развалу савецкай імперыі і жахаў Чарнобыля", -- сказала пісьменніца. Вось чаму нядзіўна, лічыць яна, што "ў краіне нічога не адбываецца, паколькі масавая свядомасць беларусаў глыбока траўміравана і нашы людзі закутыя ў мінулае. Амаль немагчыма выскачыць са свайго мінулага. Думаю, што гэта праблема і мастакоў, бо культура барацьбы гіпнатызуе, затрымлівае нас". С.Алексіевіч лічыць, што "самае цяжкае -- сумясціць у сабе грамадзяніна і паэта". На думку літаратара, "мы, пісьменнікі, не робім галоўную сваю працу -- у нас няма новых ідэй. Мы іх не генеруем, мы не дадумваем рэчы да канца, мы плачам, як тургенеўскія паненкі, крыўдзімся. Людзі ж, закліканыя думаць, не павінны скардзіцца на гісторыю. Свет недасканалы, страшны і ўсё-такі надзвычай цікавы".

**Нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць!..**

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар

# З вялікага грому -- малы дождж

…Страшэнную разбалансаванасць нацыянальнага жыцця на Беларусі ўжо ніяк не ўдаецца яе палітыкам і ідэолагам утойваць ад сусветнай грамадскасці. Пад пытанне пастаўлена само існаванне беларускага народа як самабытнай этнічнай супольнасці. Яго становішча ацэньваецца ніколькі не лепшым, чым баскаў у Іспаніі, каталонцаў у Францыі, лужыцкіх сербаў у Нямеччыне кашубаў у Польшчы... Без прыняцця кардынальных захадаў усім ім пагражае ўжо ў бліжэйшы час поўная страта этнакультурнай самабытнасці, што асабліва недаравальна для беларусаў, паколькі іх дзесяць мільёнаў і ў сваёй краіне яны з'яўляюцца тытульнай нацыяй! Не выключана, што менавіта гэта і дало падставы такой аўтарытэтнай у свеце арганізацыі, як ЮНЕСКА, фінансава падтрымаць правядзенне ў Мінску сімпозіума на тэму "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі".

Як ніколі да гэтага, у нашых нацыянальна зарыентаваных грамадска-палітычных і культурных дзеячаў з'явілася рэальная магчымасць паразважаць над архіскладанай праблемай выратавання беларусаў ад культурна-моўнай русіфікацыі, паслухаць, якія парады па перaадоленні гэтай навалы могуць прапанаваць запрошаныя на сімпозіум асобы. Многія ж з іх прыехалі з краін дзе калі не да канца, дык у значнай ступені выкаранена ўсё тое, што не дае народу нармальна развівацца на сваім прыродным грунце, перашкаджае захаванню, узбагачэнню нацыянальных асноў жыцця. Як гэта часта здараецца з беларусамі, такой магчымасці яны і зараз не выкарысталі.

Вельмі шкадую і прызнаю за сабою вялікую віну (уваходзіў жа ў склад аргкамітэта па правядзенні сімпозіума), што на гэтым высокім для нашай краіны форуме не адбылося сур'ёзнай, узважанай гаворкі па большасці вынесеных на яго разгляд пытаннях, асабліва што датычылі беларускай культуры і мовы. Ужо на першых двух пасяджэннях аргкамітэта адчувалася пагроза, што пэўныя афіцыйныя колы будуць усяляк старацца не даць магчымасці сказаць на ім усю праўду пра нашыя вартыя вялікага жалю культурна-моўныя рэаліі. Відаць было гэта з тэм дакладаў, месца выступоўцаў у сацыяльна-палітычнай структуры грамадства, адносна невысокага сярод іх працэнта прадстаўнікоў ад самой Беларусі.

Галоўную ж прычыну нізкай аддачы сімпозіума бачу ў тым, што аргкамітэт не палічыў патрэбным заслухаць грунтоўны навуковы глыбока аналітычны даклад аб сапраўдным стане культурна-моўнага жыцця на Беларусі і шляхах выхаду яе карэннага насельніцтва з асіміляцыйнага крызісу. Лагічна было б гэтыя надзвычай надзённыя пытанні асвятліць у дакладзе старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Аляксандра Вайтовіча як адной з самых высокіх дзяржаўных асоб. Аднак яго выступленне на тэму "Духоўныя багацці народаў і ўстойлівы поступ цывілізацыі" насіла вельмі агульны характар, датычыла ў асноўным праблем планетарнага характару і толькі мімаходзь закранула нашу культурна-моўную сітуацыю. Таму ўдзельнікі сімпозіума практычна нічога не даведаліся пра яе рэальны стан з даклада А.Вайтовіча. Днём пазней гэты прагал ім даводзілася запаўняць ужо самім, аналізуючы на практыцы, на якой мове працуюць на Беларусі радыё і тэлебачанне, прадаецца ў кіёсках і кнігарнях друкаваная прадукцыя, вядзецца візуальнае афармленне вуліц, сквераў, паркаў сталіцы, гавораць паміж сабою яе жыхары.

Нельга не звярнуць увагі і на такі факт, што з усіх 10 дакладаў, прызначаных для чытання на пленарным пасяджэнні першага дня працы сімпозіума, аніводзін не быў прысвечаны непасрэдна беларускай праблематыцы!!! Прычына, відаць, тут не ў нашай рахманасці і талерантнасці. Даклад аўтара гэтых радкоў на тэму "Дзяржаўная моўная палітыка ў Беларусі ў XX -- пачатку XXI стагоддзя", нягледзячы на маю настойлівую просьбу, быў вынесены не на пленарнае, а на секцыйнае пасяджэнне і стаяў на 4-м месцы ззаду. Для яго прачытання было выдзелена ўсяго толькі 10 хвілін. За такі абмежаваны час не змаглі б як след расказаць удзельнікам сімпозіума пра асноўныя "дасягненні" беларускай дзяржавы ў галіне моўнай палітыкі за стогадовы перыяд нават легендарныя прамоўцы Старажытнай Грэцыі і Старажытнага Рыма. Па розных прычынах даклад мне прапанавалі прачытаць не ў першы, а ў другі дзень працы сімпозіума, і не на секцыі, а на пленарным пасяджэнні. Праўда, на ім прысутнічала не больш людзей, чым у першы дзень на секцыі.

Лічу, што наяўнасць вялікай колькасці незанятых месцаў у зале былога Дома літаратара -- гэта адзін са слабых бакоў сімпозіума. Нават у першы дзень працы яна была запоўнена трохі больш як на палавіну, у другі дзень -- прыкладна на адну чвэртку, хаця жаданне ў шчырых прыхільнікаў беларускасці папрысутнічаць на такім крайне рэдкім і вельмі важным для нас мерапрыемстве было надзвычай вялікім. Але іх не запрасілі, а пранікнуць у залу без адпаведнага дакумента было немагчыма для сціплага, выхаванага чалавека. Не магу сказаць, ці ў арганізатараў сімпозіума не хапіла фінансавых сродкаў, каб да канца запоўніць нядужа вялікую залу Дома літаратара неабыякавымі да лёсу краіны людзьмі, ці многія з запрошаных афіцыйных асоб проста не захацелі пачуць крытыку (яна ўсё-такі прысутнічала) у свой адрас за недаравальную пасіўнасць, а то нават і за мэтанакіраваныя дзеянні па разбурэнні нацыянальных асноў культурна-моўнага жыцця беларусаў.

Трыбуну даволі часта выкарыстоўвалі асобы афіцыйнага погляду на беларускае пытанне, ад іх выступленняў у некаторых гасцей, напэўна ж, магло скласціся памылковае ўражанне, што ў нас не ўсё так і кепска ў культурна-моўным жыцці. Сімпозіум -- хутчэй за ўсё насуперак жаданню некаторых сустаршынь аргкамітэта -- не выклікаў шырокага рэзанансу ў грамадстве, ніколькі не наблізіў яго да глыбокага разумення прычын глабальнай русіфікацыі беларускага народа, не вызначыў эфектыўных шляхоў пераадолення гэтай бяды, не змабілізаваў нас на рашучую барацьбу з глабалізацыяй як усходняга, так і заходняга кірункаў. А змагацца з ёю трэба, калі хочам заставацца самабытным народам, уносіць і свой уклад у разнастайнасць культур і моў сусветнай цывілізацыі, чаму акурат і быў прысвечаны сімпозіум.

У баку ад рэгулявання культурна-моўных працэсаў у варунках паглыблення працэсаў сусветнай глабалізацыі ніяк не можа заставацца наша дзяржава. Ва ўладных структурах абавязкова павінен быць і орган, які спецыяльна займаўся б праблемамі глабалізацыі, своечасова прадухіляў бы яе негатыўныя наступствы. Ім мог бы стаць, пасля адпаведнай рэарганізацыі, Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны, у складзе якога сёння працуюць даволі высокай кваліфікацыі прафесіяналы, прычым са здаровай нацыянальнай самасвядомасцю.

Паколькі сімпозіум не расставіў нават самыя асноўныя кропкі над "і", працягвае існаваць крайне вострая патрэба ў калектыўным абмеркаванні праблемы этнічнага выжывання беларусаў. Вельмі карысна было б як мага хутчэй прааналізаваць яе з абавязковым удзелам палітыкаў і навукоўцаў тых краін, якія ўжо выйшлі з асіміляцыйнага крызісу ці працягваюць паспяхова пераадольваць яго, будуючы жыццё сваіх народаў на прыродным нацыянальным падмурку, уносячы гэтым самым, не ў прыклад беларусам, творчая інтэлігенцыя якіх больш працуе ў рускай, чым ва ўласнай культурна-моўнай стыхіі, неацэнны ўклад у сусветную культурную палітру.

Хацелася б, каб абмеркаванню гэтай праблемы была нададзена належная ўвага і на з'ездзе беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі, які мяркуецца правесці ў Мінску ў дні святкавання 120-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Толькі не трэба ставіць абавязковай умовы, каб у працы з'езда брала ўдзел адна дэмакратычная інтэлігенцыя. Выцягваць беларускі народ з асіміляцыйнай памыйніцы трэба ўсёй грамадой. Так хутчэй можна дасягнуць станоўчага выніку. (Народная Воля)

***********************************

Алег ЛОЙКА (Г. С.)

# Гэта міф, што наша апазіцыя слабая

**Сітуацыя ў краіне — надзвычайная, бо надзвычайны канфлікт паміж дзяржаўнай уладай сённяшняй Беларусі і беларускай літаратурай як носьбітам духоўнасці беларускага народа і яго культуры. У надзвычайную сітуацыю беларуская сучасная літаратура трапіла ў выніку свядомай, мэтанакіраванай палітыкі, якую ўладныя сілы вядуць супраць беларушчыны. Напор гэтых сіл сёння — надзвычайны, надзвычайным павінен стаць і наш ім адпор**

Чаму ж такі франтальна-шквальны наступ пайшоў на беларушчыну — на нашу літаратуру, на нашу мову? Адзін з адказаў мне бачыцца ў тым, што ўлада заваёўвае для сябе будучыню — новы ўласны электарат. Няўмольна ж адмірае той сельскі электарат — бабулі і дзядулі, што паверылі ў абяцанкі-цацанкі вярнуць страчаныя халадзільнікі і грошыкі, якія капіліся на хаўтурныя дошкі. Моладзь на апошніх выбарах не вельмі падтрымала першую асобу, а моладзь цяпер выходзіць на авансцэну нацыянальнай гісторыі, яна цяпер — блізкі, будучы электарат, які яшчэ не замбіраваны. Толькі мэтанакіраванае адчужэнне моладзі Беларусі ад гістарычнай памяці, ад беларускай літаратуры, ад беларускай мовы можа даць новы спрыяльны электарат у новым захадзе ўладных сіл да ўлады. Часу на гэта — у абрэз, таму і спешка, таму і франтальнае наступленне на антыбеларускім вектары з такім рэзкім, адкрытым да цынізму напорам. Валодаючы тэлебачаннем, улады зганьбавалі нас у вачах нашага народа, нашай інтэрнацыянальнай Беларусі, дзе беларус заўсёды быў у разуменні з палякам, яўрэем, татарынам, расійцам. Чаму я рускіх назваў на чацвёртым месцы? Таму, што ён чацвёртым увайшоў у гісторыю нашага народа. Як уваходзіў, мы гэта ведаем. Цішайшага цара Аляксея Міхайлавіча мы асабліва любіць не маглі, бо кожны другі насельнік нашай Бацькаўшчыны загінуў ад шаблі яго вынішчальнікаў. Не маглі мы любіць Пятра I, які сек самаручна святароў Полацкай святыні і бочкі пораху падкладваў, каб узарваць наш Мірскі замак. А ці маглі любіць мы вешальніка Мураўёва, тое чыноўніцтва і праваслаўнае духавенства, што "на ловлю счастья и чинов" ляцела ў "Западно-Русский край"?

Я б не прыгадваў гэтых акрутных фактаў гісторыі (для сярэднявечча яны былі нармальныя), але як іх не прыгадваць, калі яны — звёны ў ланцугу, які сёння нас імкнецца канчаткова дадушыць. Сённяшнія душыцелі беларушчыны — непасрэдныя нашчадкі цароў Аляксея Міхайлавіча, Пятра I, Кацярыны II з яе Суворавым, як і Кнорына, як і Мяснікяна, Гея, Цанавы. Хто сек, хто вешаў, хто расстрэльваў

Сёння — "дэмакратыя": шабляй не сякуць, шыбеніцаў не мосцяць, куляў не трацяць. Сёння адкрыта, на вачах усяго свету, бессаромна прымаюць такія дэкрэты, што, як труна, у якую ляжаш — не ўваскрэснеш. Згвалтавана Акадэмія, бо яна ўжо не Акадэмія, калі яе прэзідэнта акадэмікі не выбіраюць, а дзяржаўныя ўлады назначаюць. Русіфікаваны мой родны ўніверсітэт: беларускамоўных патокаў няма ні на матфаку, ні на фізфаку (а яны былі.)

У сярэдняй школе абавязковы экзамен па беларускай мове і літаратуры адмяняецца, а плануюцца падручнікі, што павінны спалучыць пад адной вокладкай літаратуры рускую і беларускую. У савецкі час было, што беларускую літаратуру выкладалі па-руску (як замежную, нямецкую ці французскую), але каб ад двухмоўя дайсці да адмаўлення беларускай літаратуры як такое — такога яшчэ не было!

Таму сёння мы павінны выпрацаваць, прыняць надзвычайныя меры, захады — усебеларускага характару, усёглабальнай накіраванасці. Бо трэба, каб нас пачулі, бо людзі на свеце на тое, каб чуць адзін аднаго, і народы — на тое ж, і супольнасць іх — на тое ж.

Гэта міф, што апазіцыя ў Беларусі слабая. Была б яна слабая, не было б клопату з палітычнай арэны зводзіць Карпенку, Ганчара, Захаранку. Слабых не зводзяць, зво-дзяць моцных. Імёны ўсіх іх у нас на вуснах, без іх апазіцыя, вядома, аслабела, але, паўтараю, гэта міф, пушчаны зверху, што апазіцыя слабая. Ды як яна можа быць слабой, калі яна жыве, дыхае неўміручасцю Янкі Купалы, Якуба Коласа, трох Максімаў — Багдановіча, Гарэцкага, Танка?! Ды ніякая яна не слабая, калі яе ачольваюць такія магутныя постаці, як Васіль Быкаў, Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін. Калі гаварыць пра палітыкаў, то хто б з іх якія платформы не займаў — і Зянон Пазьняк, і Станіслаў Шушкевіч, і Юры Хадыка, і Анатоль Лябедзька, і многія іншыя — усё гэта постаці несумненна значныя. Моцная апазіцыя і прафесійнасцю яе прадстаўнікоў, кагортай вучоных, што з'яўляюцца несумненнай элітай нашага грамадства: Гарэцкі, Нікіценка, Оргіш. Моцная апазіцыя і плеядай публіцыстаў, што згрупаваліся вакол "Народнай волі", "Нашай свабоды".

Апазіцыя моцная нацыянальнай ідэяй, адраджэнізмам, які дзяржаўнай уладай ганьбіцца, шальмуецца.

Слабая ў Беларусі не апазіцыя, а сённяшняя дзяржаўная ўлада, якая не можа справіцца ні з праблемамі эканамічнымі, ні з сацыяльнымі, ні з сельскагаспадарчымі. Палітыка гэтай улады разбуральная, а не стваральная, і яна пры канчатковым разбурэнні або страце славутых раней прадпрыемстваў, яна пры кананні калгасна-саўгаснай сістэмы, рэанімаваць, ажывіць якую ніяк не можа.

Ні ідэямі, ні розумам, ні прафесіяналізмам не слабая наша апазіцыя, як і мы, пісьменнікі. Мы ў адным пры сіле сваёй аказаліся слабымі, бо без школы палітычнага выхавання, без умельства аратарскага, без валодання мікрафонам, без практыкі валодання дыскусіяй, без валодання простай граматай палітычнай гульні, той гульні, якая па-за маральнымі недапушчэннямі, па-за інтэлігентнасцю, а з наплявацельствам на ўсялякія законы, правы, звычаі, прыстойнасці.

Перамаглі цынічнасць, нахабства, амаральнасць. Маральненькія засталіся растаптаныя, апляваныя, зганьбаваныя, сшальмаваныя. І зганьбаваны перш за ўсё сталі мы, беларускія пісьменнікі, беларуская інтэлігенцыя — зганьбаваная ў ленінскай традыцыі як гнілая інтэлігенцыя, зганьбаваная ў сталінскай традыцыі як нацдэмаўская, як служка буржуазнага нацыяналізму.

Зразумейма ж гэта — і дамо адпор антыбеларускай набрыдзі! Не дамо адабраць ад нас Беларусі, не дамо адабраць ад Беларусі яе народ.

*******************************************

# Глабалізацыя - мова - сувэрэнітэт - дабрабыт

**Генадзь ЛЫЧ, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі** (газ. Звязда)

***ПОГЛЯД***

Прадбачу: нецярплівы чытач, які звычайна спяшаецца вынесці свой прысуд артыкулу, часам не дачытаўшы яго ўважліва да канца, як толькі ўбачыць прыведзены вышэй загаловак, адразу ж папракне мяне ў штучным спалучэнні складўшых яго слоў. Асабліва пярэчанне, мяркую, выкліча уключэнне ў гэтую нізку слова «мова». «Ну, якое дачыненне, — запярэчыць мне нецярплівы чытач, — мае, прынамсі, мова да суверэнітэту краіны і дабрабыту народа? Гэта ж зусім розныя і нічым не звязаныя паміж самой панясці, якія адносяцца да якасна адрозных сфераў грамадскай жыццядзейнасці!»

І ўсё ж сувязь паміж пазначанымі ў загалоўку паняццямі самая непасрэдная і вельмі цесная. Асабліва ва ўмовах глабалізацыі, якая адбываецца зараз у самых розных сферах дзейнасці сусветнай супольнасці, набіраючы з кожным годам усё большую моц і маштабы, і нясе з сабой народам свету самыя розныя наступствы. Як пазітыўныя, так і негатыўныя.

Пры гэтым, як заўсёды, найбольшую карысць ад глабалізацыі атрымліваюць развітыя краіны, якія ў рашаючай меры прадвызначаюць увесь ход грамадска-палітычнага развіцця сусветнай супольнасці. У тым ліку і шляхам выпрацоўкі і задзейнічання ў жыццё такіх «правілаў гульні ў глабалізацыю», якія адпавядаюць іх нацыянальным інтарэсам. Негатыўныя ж наступствы часцей за ўсё дастаюцца краінам з адсталай, малаэфектыўнай эканомікай, якія практычна не валодаюць рэальнымі магчымасцямі актыўна ўплываць на прыняцце глабальных рашэнняў і, па сутнасці, вымушаны ісці ў фарватары перадавых дзяржаў.

Разам з тым эканамічна адсталыя краіны не могуць дазволіць сабе і застацца па-за глабалізацыяй, бо гэта непазбежна прывядзе да самаізаляцыі, якая цалкам пазбавіць іх усякіх шанцаў на паспяховае сацыяльна-эканамічнае і нацыянальна-культурнае развіццё. Калі ўжо такая вялікая і магутная дзяржава, як колішні Савецкі Саюз, які валодаў агромністымі прыроднымі і інтэлектуальнымі рэсурсамі, адгарадзіўшыся ад усяго астатняга свету, не здолела пазбегнуць хранічнага адставання ад перадавых краін Захаду, якое спарадзіла цэлы шэраг невырашальных праблем і ў рэшце рэшт прывяло яе да поўнага развалу, то што ўжо тады казаць пра адносна невялікую краіну, якая валодае абмежаванымі рэсурсамі і малаэфектыўнай нацыянальнай эканомікай.

Вось чаму, калі з двух ліхаў выбіраць меншае, дык больш правільна аддаць перавагу далучэнню да працэсаў глабалізацыі. І хоць гэта ніколькі не гарантуе паспяховага сацыяльна-эканамічнага развіцця, пэўную надзею на лепшае яно ўсё ж такі дае. Трэба толькі прадпрыняць адпаведныя захады, каб яна спраўдзілася.

Адразу ж зазначу, што зрабіць гэта даволі не проста. Справа ў тым, што ні адна з развітых краін свету асабліва не зацікаўлена ў эканамічным і сацыяльным росквіце той ці іншай краіны, што стала на шлях развіцця. Іх турбуе зусім іншае: як бы не страціць сваё лідэрства ў сусветным навукова-тэхналагічным прагрэсе, якое дае ім істотныя і стабільныя звышпрыбыткі.

Пераадоленню хранічнага адставання краін, якія сталі на шлях развіцця, перадавыя дзяржавы свету садзейнічаюць перш за ўсё толькі таму, што масавае жабрацтва грамадзян адзначаных краін негатыўна адбіваецца на рэалізацыі іх уласных нацыянальных інтарэсаў (прынамсі, парадзае непажаданую масавую міграцыю і спрыяе яшчэ большаму пашырэнню міжнароднага тэрарызму). Прадухіліць альбо звесці да мінімуму негатыўныя наступствы адзначаных з'яў для развітых краін куды больш выгадна, чымсьці пасля змагацца з міжнародным тэрарызмам і абвастрэннем крымінагеннай абстаноўкі непасрэдна ў сябе па прычыне масавай міграцыі грамадзян з эканамічна адсталых краін.

Пры гэтым, варта зазначыць, развітыя краіны праяўляюць вялікую асцярожнасць пры аказанні сваёй падтрымкі краінам, што сталі на шлях развіцця. З тым, каб ненарокам не спарадзіць небяспечных канкурэнтаў, здольных пазбавіць іх тых звышпрыбыткаў, якія атрымлівалі яны на працягу многіх гадоў ад распрацоўкі і продажу на сусветным рынку новых прагрэсіўных тэхналогій.

Да ўсяго, не трэба забываць, што для высокаразвітых краін нават эканамічна выгадна, каб побач з імі існавалі краіны з адсталай, малаэфектыўнай эканомікай. Акрамя захавання за сабой і надалей заваяванай «нішы» на сусветным рынку тавараў, паслуг і новых высокіх тэхналогій, гэта дае ім магчымасць шырока выкарыстоўваць у сваіх эканамічных інтарэсах прыродныя рэсурсы і рабочую сілу адсталых краін, прычым не плацячы ні за тое, ні за другое належнай цаны. У дадатак, на тэрыторыі адзначаных краін яны нярэдка размяшчаюць экалагічна небяспечныя віды вытворчасці і прамысловыя адходы і такім чынам за іх кошт паляпшаюць экалагічную сітуацыю на ўласнай тэрыторыі. Усё гэта, разам узятае, з аднаго боку, замацоўвае за прамыслова развітымі краінамі іх лідэрства ў сусветнай эканоміцы, а з другога — істотна ўскладняе вырашэнне краінамі, што сталі на шлях развіцця, лёсавызначальнай праблемы хутчэйшага пераадолення свайго хранічнага адставання.

Утрыманне краін, што сталі на шлях развіцця, у даволі вузкім калідоры (паміж масавым жабрацтвам асноўнай часткі іх грамадзян і такім узроўнем сацыяльна-эканамічнага развіцця, які, хоць і дазваляе больш-менш паспяхова спраўляцца з праблемай беднасці і жабрацтва, але ў той жа самы час не дае ім рэальнай магчымасці паспяхова канкурыраваць з прамыслова развітымі краінамі) было і застаецца адной з найгалоўнейшых стратэгічных мэтаў краін-лідэраў у галіне міжнародных эканамічных адносінаў. І ў нас сёння няма ніякіх падстаў чакаць, што яны адмовяцца ад яе ў бліжэйшай перспектыве.

Зразумела, такая беспрасветная будучыня нікога не можа задаволіць. Таму ўсе народы, якія апынуліся ў адзначаным вышэй калідоры, стараюцца вырвацца з яго з апошніх сілаў. Але ўдаецца гэта далёка не ўсім. Больш таго, існуе нямала краін, якія сёння жывуць нават горш, чым яны жылі 30-40 гадоў таму назад.

Як гэта не прыкра, але даводзіцца прызнаць, што апошнім часам, пасля развалу Савецкага Саюза, у адзначаным калідоры апынулася і наша Бацькаўшчына. У сувязі з гэтым перад намі зараз таксама ва ўвесь рост паўстала пытанне: як вырвацца з яго і выйсці на належны ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця?

На працягу некалькіх апошніх гадоў кіраўніцтва нашай краіны дадзенае пытанне спрабавала вырашыць шляхам як мага больш цеснай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй. Яно было гатовае ісці ў гэтым накірунку вельмі далёка, аж да стварэння адзінай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі і фарміравання наднацыянальных органаў улады і кіравання, надзеленых шырокім колам паўнамоцтваў і правам прыняцця законаў і іншых нарматыўна-заканадаўчых актаў і кіруючых рашэнняў, абавязковых для выканання на ўсёй тэрыторыі краін-удзельніц Саюзнай дзяржавы. Хоць гэта істотна абмяжоўвала эканамічны і палітычны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Аднак сёння стала ўсім зразумела, што расійскі бок ні за што не пагодзіцца на стварэнне ў рамках Саюзнай дзяржавы такіх наднацыянальных органаў улады і кіравання, якія б хоць крыху, хоць у чымсьці абмяжоўвалі яго рэальную ўладу на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Расійскія лідэры недвухсэнсоўна далі зразумець, што яны хочуць быць паўнаўладнымі гаспадарамі на сваёй зямлі.

Па гэтай жа прычыне прэзідэнт Расійскай Федэрацыі рашуча адхіляе і прынцып роўнасці ва ўзаемаадносінах паміж Беларуссю і Расіяй у складзе Саюзнай дзяржавы, на якім настойвае беларускі бок. Ён разам з многімі іншымі расійскімі палітыкамі высокага рангу настойвае на тым, каб Рэспубліка Беларусь фактычна ўвайшла ў склад Расійскай Федэрацыі ў якасці яе звычайнага суб'екта. Такога, да прыкладу, якім з'яўляецца Татарстан, Башкарстан, Інгушэція ці Паўночная Асеція.

І, дарэчы, папракаць за гэта Уладзіміра Пуціна нельга. Ён дзейнічае так, як і належыць дзейнічаць сапраўднаму палітычнаму лідэру краіны, адказнаму за захаванне і памнажэнне найвялікшых нацыянальных каштоўнасцяў свайго народа. Што да нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, то яны і не павінны яго хваляваць. Гэта — прадмет клопату кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з гэтым варта зазначыць, што адказ кіраўніка беларускай краіны на прапанову расійскага боку Рэспубліцы Беларусь увайсці ў склад Расійскай Федэрацыі ў якасці яе звычайнага суб'екта заслугоўвае самай высокай пахвалы. Бо прыняцце гэтай прапановы азначала б ні што іншае, як дабраахвотнае адмаўленне ад уласнай дзяржаўнасці, якая з'яўляецца найвялікшай нацыянальнай каштоўнасцю, найважнейшай перадумовай нармальнага палітыка-прававога, сацыяльна-эканамічнага і нацыянальна-культурнага развіцця беларускага народа.

Толькі маючы ўласную дзяржаву, народ у стане самастойна вызначаць свае жыццёвыя прыярытэты і забяспечваць іх поўную і паслядоўную рэалізацыю. Як толькі народ страчвае яе, ён адразу ж пазбаўляецца адзначанай магчымасці і прымушаецца працаваць на нацыянальныя інтарэсы народа, да дзяржавы якога ён аказаўся далучаным. Пры гэтым тэрыторыя, якую займае народ, які страціў сваю дзяржаўнасць, непазбежна становіцца перыферыяй, дзе жыццё людзей, па вобразным выказванні сусветна вядомага вучонага ў галіне гісторыі эканомікі Фернана Брадэля, нагадвае сабой Чысцец, а то і самае сапраўднае Пекла.

Справа ў тым, што цэнтр заўсёды імкнецца займець як мага больш прыбылей, цалкам пазбаўляючы іх перыферыю. Перашкодзіць гэтым эгаістычным памкненням цэнтра народ, які страціў сваю ўласную дзяржаўнасць і апынуўся на другасных ролях у складзе іншай дзяржавы, канешне ж, не ў стане.

Пацвярджэнняў сказанаму ў гісторыі чалавецтва можна адшукаць мноства. Дарэчы, яскрава сведчыць аб гэтым гісторыя самога беларускага народа, якому не адно стагоддзе давялося жыць спачатку ў складзе Рэчы Паспалітай, а затым Расійскай імперыі.

Як гэта ні дзіўна, збой, што адбыўся апошнім часам у беларуска-расійскіх узаемаадносінах на вышэйшым узроўні, для нас, беларусаў, мае значна больш карыснага, чымсьці шкоднага. І перш за ўсё таму, што, нарэшце, пакончыў з той пагрозлівай нявызначанасцю, якая існавала па многіх, у тым ліку лёсавызначальных, пытаннях будаўніцтва Саюза Беларусі і Расіі і была не на карысць нашай краіне як слабаму боку.

Сёння ўсім стала да канца ясна: вышэйшае кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь ні пры якіх умовах не збіраецца адмаўляцца ад дзяржаўнай незалежнасці, эканамічнага і палітычнага суверэнітэту сваёй краіны ў імя стварэння Саюзнай дзяржавы. Няма ў яго і намеру аднаўляць колішні Савецкі Саюз. Яно згодна на стварэнне толькі такой Саюзнай дзяржавы, у якой узаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй будуць грунтавацца на прынцыпах роўнасці і пры ўмове захавання кожнай краінай-удзельніцай Саюзнай дзяржавы свайго эканамічнага і палітычнага суверэнітэту…

Ёю стала ўсеагульнае разуменне таго, што ў нас няма і не можа быць іншага шляху да лепшай будучыні, як толькі няўхільнае ўмацаванне сваёй дзяржаўнай незалежнасці, эканамічнага і палітычнага суверэнітэту.

Са з'яўленнем адзначанага паразумення самі сабой адпалі многія падставы для падзелу грамадзян краіны на «сваіх» і «чужых». У прыватнасці, не стала ніякага сэнсу дзяліць насельнікаў беларускай зямлі па іх адносінах да практычнага вырашэння такіх ключавых пытанняў, як трэба ці не трэба аднаўляць колішні Савецкі Саюз, варта ці не варта пры гэтым змагацца за захаванне свайго эканамічнага і палітычнага суверэнітэту і т.п. Сёння ўсе мы павінны быць адзінымі ў сваіх намаганнях усямерна ўмацоўваць дзяржаўную незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны як найважнейшую перадумову нашага няўхільнага сацыяльна-эканамічнага і нацыянальна-культурнага прагрэсу. Таго прагрэсу, які ў рэшце рэшт павінен дазволіць нам, беларусам, заняць сваё дастойнае месца сярод перадавых краін і народаў свету.

Аднак з'яўлення зазначанай вышэй падставы яднання беларускага народа, пры ўсёй яе значнасці, яшчэ недастаткова для практычнага вырашэння дадзенай праблемы. У дадатак трэба здзейсніць шэраг іншых не менш значных мераў.

Сярод іх я б на першае месца паставіў неадкладнае пераадоленне негатыўнага стаўлення да беларускай мовы, якое апошнім часам атрымала шырокае распаўсюджванне сярод беларускага грамадства. Бо, трэба думаць, нездарма гаворыцца: мова — душа народа, а, як вядома, чалавек, які не мае душы, на многае не здольны. Асабліва з пункту погляду стваральнай працы.

З улікам сказанага крайне важна ўсім нам як мага хутчэй усвядоміць неабходнасць заняцця беларускай мовай належнага ёй месца на ўсёй моўнай прасторы Беларусі. Дамагчыся таго, каб кожны грамадзянін нашай краіны, нават калі ён не з'яўляецца этнічным беларусам, пранікнуўся глыбокім перакананнем, што і асабіста ён таксама абавязаны рабіць усё, што ў яго сілах, дзеля таго, каб беларуская мова станавілася паўнаўладнай гаспадыняй ва ўсіх сферах нашага грамадскага жыцця. Каб мы перасталі, нарэшце, марнаваць час, якога нам і без таго ўжо катастрафічна не стае, на розныя, па сутнасці, пустыя спрэчкі аб тым, трэба ці не трэба весці выхаванне нашых дзетак у яслях і дзіцячых садках на беларускай мове, ажыццяўляць пераважна на ёй навучанне ў агульнаадукацыйных сярэдніх школах, тэхнікумах і вышэйшых навучальных установах, уводзіць беларускую мову ў дзяржаўныя ўстановы самых розных профіляў і ўзроўняў кіравання, і заняліся канкрэтнымі справамі, накіраванымі на захаванне і ўсямернае развіццё беларускай мовы. Прытым рабіць гэтую справу трэба настойліва і мэтанакіравана, без аніякага страху і сумнення, з цвёрдай упэўненасцю, што дзейнічаем правільна, у імя нашай лепшай будучыні.

А што гэта менавіта так, пераканаўча сведчыць сусветны вопыт. З аднаго боку, ён недвухсэнсоўна гаворыць аб тым, што ўсе народы, якія навечна адышлі ў нябыт, папярэдне гублялі сваю мову, пераходзячы на мову іншага, больш моцнага духам народа, а з другога — паказвае, што народы, якія клапоцяцца пра сваю будучыню, ніколі не забываюць засцерагаць родную мову ад усялякіх пагроз. Нават тады, калі, здаецца, ніхто і нішто рэальна не пагражае выжыванню ні самага народа, ні яго мовы. Болей таго, як правіла,

асабліва вялікі клопат аб развіцці роднай мовы праяўляюць якраз тыя народы, якія найбольш упэўнена адчуваюць сябе ў сусветнай супольнасці і маюць найбольш светлыя перспектывы на будучае. І ўсё толькі таму, што як на ўласным вопыце, так і на вопыце многіх іншых народаў свету змаглі пераканацца: без паўнавартаснай роднай мовы практычна не магчыма паспяхова вырашыць ніводнай складанай, сапраўды лёсавызначальнай задачы.

Узяць хоць бы… рускі народ. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія зараз ён перажывае, няма ніякага сумнення ў тым, што ў гэтага народа вялікая будучыня, што яму не пагражае лёс народаў, якія спачатку страцілі сваю родную мову, а затым і ўласную дзяржаўнасць. Тым не менш колькі ўвагі надае новае расійскае кіраўніцтва развіццю і пашырэнню сферы выкарыстання рускай мовы! Прычым не толькі на неабсяжнай тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, але і далёка за яе межамі. З якой бы краінай не заключаў урад Расійскай Федэрацыі міжурадавае пагадненне, ён абавязкова ўзнімае перад яе кіраўніцтвам моўнае пытанне, калі на яе тэрыторыі пражываюць этнічныя рускія і, на думку расійскага боку, іх патрэбы ва ўжыванні роднай мовы не задавальняюцца ў поўнай меры. Асабліва калі гэтая краіна знаходзіцца ў той ці іншай залежнасці ад Расійскай Федэрацыі. А зусім нядаўна (17 студзеня 2000 года) Урад Расійскай Федэрацыі прыняў спецыяльную Пастанову №41 «Аб Савеце па рускай мове пры Урадзе Расійскай Федэрацыі», у якой у якасьці асноўнай задачы Савета пазначыў «распрацоўку прапаноў па падтрымцы рускай мовы як дзяржаўнай мовы Расійскай Федэрацыі, нацыянальнай мовы рускага народа, па пашырэнні выкарыстання рускай мовы ў міжнацыянальных і міжнародных зносінах, захаванні чысціні рускай мовы.»

Яскравыя станоўчыя прыклады дзяржаўнага клопату аб захаванні і развіцці роднай мовы дэманструюць многія прамыслова развітыя краіны Захаду, прынамсі — Францыя, якая мае багатую гісторыю паспяховай барацьбы за захаванне сваёй дзяржаўнасці і роднай мовы.

Варта больш уважліва прыглядзецца нам і да адпаведнага вопыту Ізраіля. Хоць гэта краіна вельмі маладая (гісторыя сённяшняй дзяржавы Ізраіль налічвае ўсяго крыху болей за пяцьдзесят гадоў), яна ўжо здолела дасягнуць выдатных поспехаў па многіх накірунках грамадска-палітычнага развіцця. І гэта, заўважу, пры тым, што практычна ўвесь гэты час ёй даводзілася весці напружаную ўзброенную барацьбу за захаванне сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Ды і сягоння Ізраіль, па сутнасці, знаходзіцца ў стане вайны з Палесцінай. Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, кіраўніцтва дадзенай краіны ў першыя ж гады яе дзяржаўнай незалежнасці ўсадзіла свой народ за вывучэнне яўрэйскай мовы іўрыт, і зараз у Ізраіле практычна не існуе моўнай праблемы.

Пры гэтым ніхто нават не ставіць пад сумненне правільнасць адзначаных паводзінаў вышэйшага кіраўніцтва Ізраіля. Нікому і ў галаву не прыходзіць думка, быццам гэтыя захады былі прадыктаваны якойсьці прыхамацю ізраільскай нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі ці шавіністычнымі амбіцыямі асобных уплывовых ізраільскіх палітыкаў. Усе ўсведамляюць адзначаныя дзеянні ізраільскага кіраўніцтва як абсалютна правільныя, прадыктаваныя жыццёвай неабходнасцю цеснага яднання ізраільскага народа для забеспячэння безумоўнага вырашэння тых найскладанейшых сацыяльна-эканамічных і ўсіх астатніх праблем, што паўсталі перад толькі што ўтворанай дзяржавай Ізраіль.

Сёння прыкладна ў такой жа сітуацыі апынулася наша Бацькаўшчына, якая толькі крыху болей за дзесяць гадоў таму назад атрымала дзяржаўную незалежнасць. Як і перад Ізраілем напачатку пяцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, перад Рэспублікай Беларусь цяпер таксама стаіць цэлы шэраг найскладанейшых задач, звязаных з забеспячэннем нашага нацыянальнага выжывання і далейшага нацыянальна-культурнага, сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця. Як і Ізраілю ў тыя далёкія гады, нам таксама сёння паспяхова не вырашыць гэтыя задачы, не дасягнуўшы належнага яднання беларускага народа. Як і ізраільскаму кіраўніцтву, кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь для забеспячэння пажаданага яднання беларускага народа таксама трэба выкарыстаць усе спосабы і сродкі, якія знаходзяцца ў яго распараджэнні. І сярод іх, безумоўна, павінна быць беларуская мова як адзін з найбольш дзейсных фактараў яднання народа.

Для гэтага беларуская мова павінна стаць паўнаўладнай гаспадыняй ва ўсіх сферах грамадскай жыццядзейнасці: у дзіцячых яслях і садках, у школах, тэхнікумах і вышэйшых навучальных установах, на прадпрыемствах, у дзяржаўных установах, а таксама, што не менш важна, у нашым паўсядзённым побыце. Апошняе стане мажлівым пры ўмове, калі кіраўніцтва краіны арганізуе мэтанакіраваную і паслядоўную працу па няўхільным пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы і наданні ёй бясспрэчнага прыярытэта адносна ўсіх іншых моў, якія ўжываюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь небеларускага паходжання.

Дарэчы, для гэтага зусім не абавязкова адмаўляцца ад прынятага ў нас двухмоўя. Галоўнае — каб у нашых дзяржаўных дзеячаў з'явілася сапраўднае жаданне забяспечыць бясспрэчны прыярытэт беларускай мовы ва ўсіх сферах нашай грамадскай жыццядзейнасці і каб яны здолелі атрымаць належную падтрымку ў гэтых сваіх памкненнях з боку ўсіх пластоў беларускага грамадства, у тым ліку прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў.

Варта зазначыць, што ўсе неабходныя падставы для гэтага ў нас ёсць. Яны заключаюцца не толькі ў неабходнасці захавання беларускай мовы як носьбіта незаменнай інфармацыі аб гісторыі цэлага самабытнага народа, як сродка захавання нацыянальнай культуры і лепшых традыцый беларускага народа, на што звычайна націскаюць многія абаронцы і прыхільнікі беларушчыны. Пры ўсёй сваёй значнасці памянёныя аргументы мала хвалююць звычайнага здэнацыяналізаванага абывацеля нашай краіны, асабліва небеларуса. Больш за ўсё яго клапоціць уласны дабрабыт. Таму трэба пастарацца давесці да звычайнага абывацеля такую простую і зразумелую яму думку, што пажаданага матэрыяльнага дабрабыту яму ніколі не зведаць, калі не адбудзецца цеснага яднання беларускага народа, здольнага адвесці ад сябе ўсе патэнцыяльныя пагрозы, якія нясе ў сябе адносна малым народам з недастаткова эфектыўнай нацыянальнай эканомікай глабалізацыя. Пераканаць яго ў тым, што гэтае яднанне павінна адбывацца толькі на аснове роднай мовы карэннай нацыі, якая складае пераважную большасць насельніцтва краіны, гэта значыць на аснове беларускай мовы. Бо калі, да прыкладу, будзе зроблена спроба аб'яднаць усіх грамадзян Беларусі на якой-небудзь іншай мове, дык нічога слушнага ў такім разе мы, на мой погляд, не даб'емся.

Па-першае, з гэтым ніколі не пагодзіцца карэнная, тытульная нацыя, добра разумеючы, што, з аднаго боку, яна жыве на сваёй уласнай гістарычнай тэрыторыі, у сувязі з чым ніхто не мае права рабіць на яе якісьці ўціск, а з другога — у свеце няма болей ніводнага такога куточка, дзе б магла нармальна развівацца беларуская мова, а раз з ёю і ўся беларуская культура.

Па-другое, у нас не можа адбыцца ніякага сапраўднага нацыянальна-культурнага адраджэння, якому належыць выключна важная роля ў выхаванні нацыянальна свядомых грамадзян з высокім пачуццём чалавечага гонару і чалавечай годнасці, без чаго, у сваю чаргу, не можа быць сапраўднага адзінства і духоўнай моцы народа. У сувязі з гэтым сур'ёзна ўскладніцца і рашэнне задачы павышэння матэрыяльнага дабрабыту жыхароў Беларусі, якая больш за ўсё хвалюе звычайнага абывацеля.

Карацей кажучы, надышоў час, калі моўнае пытанне павінна быць пастаўлена толькі так: «за» беларускую мову — «за» яднанне беларускага народа ў імя захавання і далейшага ўмацаванне дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь, яе эканамічнага і палітычнага суверэнітэту, а значыць, «за» далейшы сацыяльна-эканамічны і нацыянальна-культурны росквіт беларускага народа, няўхільнае павышэнне матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню жыцця ўсіх, без аніякага выключэння, жыхароў нашага краю.

Адзначанага прынцыповага падыходу да моўнага пытання павінны няўхільна прытрымлівацца ўсе без выключэння грамадзяне Рэспублікі Беларусь незалежна ад іх этнічнага паходжання і займаемай пасады. Прычым не толькі прытрымлівацца, але і ўсямерна садзейнічаць яго паўсюднаму прымяненню.

Зразумела, усталяванне прапанаванага даволі жорсткага падыходу да вырашэння моўнага пытання ў нас, на Беларусі, павінна адбывацца без залішняй спешкі, пры дапамозе не столькі прымусу, колькі карпатлівай растлумачальнай работы, у працэсе якой трэба будзе пастарацца давесці да кожнага грамадзяніна нашай краіны, што ва ўмовах сучаснай глабалізацыі, гэта, па сутнасці, адзіны рэальна мажлівы шлях нашага выжывання і далейшага паспяховага развіцця як самастойнага самабытнага народа, што ў адваротным выпадку лепшай долі нікому з нас не зведаць. Менавіта ў гэтай рабоце, якая павінна весціся пад кіраўніцтвам вышэйшых уладных органаў, залог усіх нашых поспехаў у вырашэнні дадзенай лёсавызначальнай і ў той жа час найскладанейшай задачы.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты...**
**Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

# Што шукаюць ля Каложы?

**Нешта дзіўнае робіцца ў нашым горадзе! Турысты, што прыходзяць на экскурсію да Каложскай царквы, назіраюць нейкія «таямнічыя дзеянні». Чаму штодзень тут нешта капаюць і перабіраюць пясок? Што згубілі зусім побач са старажытным, здаецца, даўно даследаваным помнікам? Пытанні сыплюцца і ад мясцовых жыхароў, якія, адчуваючы побач нешта невядомае, тут жа пачалі ствараць шматлікія легенды і паданні...**

З ліпеня бягучага года кафедра археалогіі і этналогіі праводзіць археалагічныя даследаванні аднаго з гістарычных пасадаў старажытнага Гродна, які ў нас у народзе ўмоўна называюць Каложскім.

Такая кафедра існуе на гістарычным факультэце з 3 студзеня. Адна з яе мэтаў – арганізацыя стацыянарнай археалагічнай экспедыцыі «Старажытнае Гродна», якая будзе пастаянна даследаваць горад і ваколіцы.

Раскопкамі кіруе дацэнт Генадзь Мікалаевіч Семянчук. Ён і распавядаў нам аб асаблівасцях «таямнічага» даследавання.

З этнічных звестак вядома, што каля Барыса-Глебскай царквы з канца XV стагоддзя існаваў манастыр, які ў пачатку XVII стагоддзя быў пераведзены ва ўніяцтва. Месца лакалізацыі манастырскага будынку на сённяшні дзень невядома. Манастыр гэты быў драўляны, таму слядоў будынку не засталося. А пасля ліквідацыі вуніі, у 50-я гады XIX стагоддзя манахі былі пераведзены на месца былога касцёла і кляштара Бернардынак, дзе зараз знаходзіцца будынак сучаснага Драматычнага тэатру.

Да сённяшняга дня адна з самых актуальных навуковых праблем – з якой прычыны менавіта на гэтым месцы пачалі будаваць такую прыгожую царкву, тым больш мураваную.

Даследчыкі вылучаюць некалькі тэорый.

Яна будавалася як прыхадская царква для насельніцтва Барыса-Глебскага пасаду. Усім вядома легенда, што Вітаўт перасяліў сюды палонных з пскоўскага мястэчка Каложа.

Па другой версіі, царква пабудавана за межамі горада, на месцы, дзе раней было паганскае капішча. Яна паўстала як сімвал перамогі хрысціянскай рэлігіі над паганствам. Выпадкова ў маі месяцы тут быў знойдзены вялізны валун, які ўзбадзёрыў прыхільнікаў паганскай тэорыі.

Вынікі праходзячых раскопак дазваляюць вылучыць трэцюю тэорыю, што Барыса-Глебская царква ад пачатку свайго існавання будавалася як манастырская. Такім чынам, можна меркаваць, што манастыр, як і сама царква, узнік ужо ў 2-й палове XII стагоддзя.

А падцвярджанне гэтаму, па-першае, нешматлікасць знаходак (альбо пакуль раскопкі ідуць на месцы па-за дамамі, альбо тут сапраўды не было шчыльна забудаванай тэрыторыі), па-другое – небагаты культурны слой (каб ён быў больш відавочным, гэта сведчыла б аб вялікім пасяленні з актыўным жыццём). Да таго ж, з практыкі вядома, што манастыры якраз будаваліся за межамі горада.

На сёняшні ж дзень раскопкі дасягнулі сярэдзіны. Кіраўнік выказаў спадзяванне, што канчатковыя вынікі альбо ўзмацняць тэорыю, альбо абвергнуць, што таксама служыць на карысць навукі.

Між тым, людзі з цікаўнасцю прыходзяць паглядзець, што такое раскопкі, уласнымі вачыма. Студэнты-практыканты, стомленыя сонцам, але ўзнёслыя прагай скарбашукальнікаў, з энтузіязмам працуюць: хлопцы – з лапатамі, а дзяўчыны – перабіраюць зямлю, мыюць і апрацоўваюць знаходкі, якія потым адправяцца на экспертызу. Разам з імі працуюць і выкладчыкі. Кожная больш-менш значная знаходка выклікае ўзрушэнне і падштурхоўвае з большай самаадданасцю працягваць раскопкі. Студэнты, напэўна, мараць, як іх знаходкі застануцца экспанатамі ў музеі, некаторыя спадзяюцца знайсці магілу Давыда Гарадзенскага, а цікаўным турыстам адказваюць: «Шукаем золата». Але, як гаворыць Генадзь Мікалаевіч, у археалогіі адмоўны вынік – таксама вынік. Хоць легенда аб месцы захавання тут Давыда Гарадзенскага мае права на існаванне, і даволі рэальнае. Было б вялікім шчасцем, каб мы яго знайшлі.

Пакуль што галоўныя знаходкі – рэшткі керамічнага посуду ад XII стагоддзя да XIX – пачатку XX: гаршкі, збанкі, патэльні, бутэлькі ад парфумаў, трубка для курэння... Гэтыя знаходкі сведчаць, што капаюць пакуль што на прысядзібнай тэрыторыі.

На гэты месяц плануецца закласці яшчэ некалькі шурфоў, каб вызначыць зону распаўсюджання культурнага слою на тэрыторыі новага парку, і каб вызначыць наступны план.

А жыхарам, якія ўсё заглядваюць на незвычайнае відовішча, дзівіцца не трэба. Тым больш, што са стварэннем новай кафедры археалагічныя экспедыцыі будуць у межах горада праводзіцца і далей.

А. СТАСЮКЕВІЧ (Біржа Інф.)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Радыё "Свабода"

**пераедзе з Прагі ў Рыгу.** На пачатку жніўня ў латвійскую сталіцу прыедуць прадстаўнікі амэрыканскай станцыі для перамоваў па канкрэтных пытаньнях пераезду. Урад Латвіі мяркуе разьмясьціць 650 супрацоўнікаў "Свабоды" й "Свабоднай Эўропы" ў збудаваны за савецкім часам комплекс "Закюсала", які латвійская тэлевізія скарыстоўвае не на поўную магутнасьць.

# Чароўная купальская ноч

Паўліна ШАФРАН

Купальская ноч у Белавежы згуртавала 6 ліпеня каля 6 тысяч людзей. У Белавежу прыехалі не толькі людзі з цэлай Польшчы, але і госці з-за мяжы — традыцыйна беларусы і прадстаўнікі іншых славянскіх народаў (украінцы, расіяне), а нават немцы зацікаўлены культурай „братоў славян" ці група французаў, якая прыехала ў пушчу ў пошуках „магутных звяроў" і амерыканцы, якія прыехалі ў Гайнаўку наведаць сваіх родных. Сваю радасць ад прысутнасці выказвалі яны гучным і заадно адказам на амаль усе мае пытанні словам: „о'кей!". Бо сапраўды, у гэтым годзе ў Белавежы ўсё было „ОК!".

Большасць удзельнікаў Купальскай ночы складалі маладыя людзі, якія з'ехаліся ў Белавежу, здавалася б, у пошуках папараць-кветкі. На жаль, былі яны больш зацікаўлены танным півам і іншымі атракцыёнамі, прапанаванымі прадаўцамі цацачных крамак.

Арганізатар імпрэзы — Беларускае грамадска-культурнае таварыства — у гэтым годзе прыемна парадаваў удзельнікаў мерапрыемства. На гэты раз не было доўгіх прамоваў, а гурты, якія прымалі ўдзел у канцэрце, спявалі з большай ахвотай, запалам. Толькі два з іх (на жаль, былі гэта гурты арганізатараў — маладзёжны „Каласкі" і старэйшы „Крыніца") не выклікалі эйфарыі ў публікі. Прычына гэтаму была празаічная — папросту не было іх амаль чуваць.

Інакш выглядалі выступленні такіх гуртоў як „Прымакі", „Ас", „Хлопцырыбалоўцы", „Расспяваны Гарадок" і „Арэшкі", якія разагравалі белавежскую публіку. Да гэтай пары не было такой сітуацыі, каб выступленні гэтых двух апошніх калектываў заахвоцілі публіку да танцаў. Людзі звычайна слухалі, часам падспеўвалі, а ў гэтым годзе — гулялі! І добра. Гэта абазначае, што гурты шукаюць нечага новага, змяняюцца, пачынаюць спяваць пад публіку, стараюцца наладзіць з ёю кантакт. Увагу ўдзельнікаў мерапрыемства прыцягнуў адзін з беларускіх гасцей канцэрта. „Купалінка" і астатнія беларускія песні ў выкананні Якава Навуменкі надоўга астануцца ў сэрцах слухачоў.

Навінкай у гэтым годзе быў сюрпрыз, якім арганізатары прыемна парадавалі ўсіх удзельнікаў. Некалькі мінут да поўначы пачаўся паказ феерверкаў і на небе паявіліся цудоўныя вогненныя ўзоры. Амаль дваццаць мінут 6 тысяч народу стаяла нерухома з паднятымі ўгару галовамі і з радасцю ў вачах войкала ад захаплення і громка апладзіравала.

Надвор'е ў гэтым годзе таксама паспрыяла. Цёплы вечар і адсутнасць камароў (проста сенсацыя!) паўплывалі на тое, што выявілася многа аматараў плавання і вылаўлівання купальскіх вянкоў, якіх майстэрства і прыгожасць выклікала захапленне не толькі ў юнакоў. Былі вялікія, каляровыя вянкі са свечкамі, стужкамі, выкананыя гуртамі, і меншыя, больш сціплыя, сплеценыя з палявых кветак дзяўчатамі з публікі. Адны і другія карысталіся вялікім зацікаўленнем.

Арганізатары ў гэтым годзе пастараліся запэўніць удзельнікам бяспеку, наймаючы ахоўнікаў. Удалося гэта амаль цалкавіта. Здзіўленне выклікаў толькі факт, што калі дайшло да некалькіх, непрыемных эксцэсаў, якія звычайна здараюцца на шматлюдных мерапрыемствах, ахоўнікі не справіліся з задачай. Гэта аднак не віна арганізатараў, бо гэта не яны адказваюць за персанал ахоўнай фірмы.

Купальская ноч далей праходзіла пры музыцы гурту „Ас", які два тыдні раней выдаў чарговую аўдыёкасету і кампактдыск. Публіка мела магчымасць паслухаць не толькі старыя гіты гурту, але і новыя аранжацыі. Песні з новага альбома „Як што любіш — кахай" запаланілі сэрцы публікі. Як сказаў лідэр гурту Славамір Трафімюк, „гэта песні нашай маладосці, якія спявалі мы яшчэ так нядаўна на вячорках у родных вёсках, гэта песні, якія спадарожнічалі нам у найважнейшых хвілінах жыцця". І гэта праўда, амаль усе ўдзельнікі забавы пад адкрытым небам, якая трывала да 4 гадзіны раніцы, не толькі гулялі, але і спявалі разам з „Асам".

Надзвычайна выглядала плошча, на якой адбывалася Купалле. Пару тысяч людзей радасна танцавала пад гукі беларускіх песень. Праўдзівым аказалася сцвярджэнне, што музыка спалучае пакаленні і лагодзіць звычаі. Купальская ноч была на гэта найлепшым доказам. А ці паявілася ў лесе кветка папараці? Невядома. Можа і так, але людзі былі такія шчаслівыя, што нават не шукалі яе... Шкада толькі, што такая чароўная ноч бывае толькі раз у год.

«НІВА»

## "БАСовішча" пад пагрозай

**Трынаццаты фэст музыкі новай Беларусі "БАСовішча", што праходзіў 19-20 ліпеня пад Беластокам ў Гарадку, мог абмежавацца адным днём. Напрыканцы першага дня фэсту падчас выступу гурта "Zet" невядомы вырваў правады з мікшэрскага пульту і залію яго вадой. Працягваць канцэрт далей было не магчыма.**

Наўздагон за хуліганам рынуліся ахоўнікі аднак злапаць яго не змаглі. Да інцыдэнту адыграць паспелі толькі ўдзельнікі конкурснай праграмы. Сёлета іх было 12. Музыкі некаторых гуртоў-канкурсантаў лічаць, што гурты былі пастаўленыя ў няроўныя ўмовы, і ад самага пачатку не спадзяваліся на перамогу.

- *Тут запраўляе менская тусоўка. Наўрадці мы нешта атрымаем*, - гаворыць **Аляксей Кузняцоў**, ударнік "Сцяны" з Берасця.

Тры з чатырох узнагародаў, што вылучылі сёлета, атрымалі менчукі. Першы прыз ад Беларускай Асацыяцыі Студэнтаў і беластоцкай студыі гуказапісу "Herc"- запіс на студыі - узяў гурт "Partyzone"; "Stod" атрымаў 1000 злотых ад Беларускага Звязу ў Польшчы; гурту "Дзея", за які прагаласавалі гледачы, арганізатары фэсту падаравалі кашулкі. Узнагароду ў 1000 злотых ад войта Гміны Гарадок атрымала каманда "Без назвы" з Бярозы.

Выступы "Zet", "Нейра Дзюбеля" і "Pomidoroff" перанеслі на другі дзень фэсту, праграму якога давялося пашырыць. На шчасце пульт да гэтага часу ўдалося адрамантаваць.

Але выступ праекта "Pomidoroff" зноўку быў пастаўлены пад пагрозу. Аляксандр Памідораў, лідар праекта, вырашыў сёлета начаваць ў намёце, а не ў школе, дзе зазвычай селяць музыкаў. Уначы ў яго скралі гітару. Увесь наступны дзень Памідораў хадзіў злы і раздражнёны. Пра знікненне інструмента неаднаразова паведамлялі па мікрафону. Аднак знайсці яго так і не ўдалося. На дапамогу Памідораву прыйшлі знаёмыя музыкі, якія пазычылі яму гітару.

На другі дзень традыцыйна выступілі "зубры" беларускай рок-сцэны: "Палац", "Крама", "Уліс". Не было толькі "Новага неба" і "Крыві". З-за дажджу і паломкі мікшэрскага пункта канцэртная праграма зацягнулася, таму бадай самы папулярны беларускі рок-гурт "N.R.M." мусіў абмежаваць свой выступ. Некалькі хвілін фанаты патрабавалі вярнуць на сцэну іх любімую каманду. Але здолелі выпрасіць ў арганізатараў толькі адну песню на біс.

Моцнымі на гэтым фэсце былі хрысціянскія плыні. Хрысціянскі рок граюць ўдзельнікі конкурса менскія гурты "Армагедон" і "Дзіе", а таксама польскі гурт "Armia", які і завершыў "БАСовішча".

Заяўлены арганізатарамі напярэдадні фэсту конкурс "Міс-БАСовішча" так і не адбыўся.

Але нягледзечы на ўсе замінкі, інцыдэнты і недапрацоўкі, агулам "БАСовішча" як заўсёды пакінула прыемнае ўражанне. Стомленыя, але задаволеныя, расцягнуліся зранку 21 ліпеня ягоныя наведвальнікі ўздоўж бруканкі, лапаючы спадарожныя машыны дадому.

==========================================

## Радасць спаткання суродзічаў

**Цяжка сказаць, колькі радасных сустрэч адбылося ў час VII Сусветнага з'езда лідчан. На незвычайны форум прыехала звыш 120 дэлегатаў з Еўропы і нават са Злучаных Штатаў Амерыкі. Нефармальныя сардэчныя спатканні землякоў доўжыліся амаль цэлы тыдзень.**

На гэты раз у рабоце з'езда пераважалі своеасаблівыя клубы па інтарэсах. Адна група гасцей цікавілася і абмяркоўвала набыткі каталіцкага адраджэння на Лідчыне. Паведамленне на гэтую тэму зрабіў ксёндз Юзаф Ганьчыц. Іншыя дэлегаты засяродзілі сваю ўвагу на праблемах нацыянальнага адраджэння тутэйшых беларусаў і палякаў. Аб гэтым іх інфармавалі старшыня гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Станіслаў Суднік, кіраўнік Таварыства польскай культуры Лідчыны Аляксандр Колышка, актывісты грамадскіх арганізацый. Удзельнікі з'езда адзначылі станоўчыя набыткі ў духоўным жыцці мясцовых людзей, у прыватнасці, рост будаўніцтва каталіцкіх і праваслаўных храмаў. Ізноў дэлегаты з сумам і шкадаваннем канстатавалі, што родная мова тутэйшых беларусаў і палякаў мае ў побыце вельмі абмежаванае прымяненне.

Затое парадавалі шаноўных гасцей канцэрты ансамбляў «Крэсавякі», «Калі ласка», «Шалом». Гэтыя калектывы ўзнёсла і натхнёна спявалі песні на польскай, беларускай і яўрэйскай мовах. І выклікалі непадробную ўвагу і шчырую ўдзячнасць слухачоў. Запаланілі іх і народныя танцы.

Увогуле культурная праграма для дэлегатаў з'езда была насычанай і разнастайнай. У педкаледжы, у будынку якога да другой сусветнай вайны размяшчалася гімназія імя К. Хадкевіча, госці паслухалі выступленне выкладчыка беларускай мовы і літаратуры паэта Міхася Мельніка. Ён жа прачытаў свае вершы. Даспадобы прыйшліся экскурсіі: у Вільню і Навагрудак, Мір і Нясвіж, Слонім і Жыровічы, у іншыя гарады і мястэчкі, на возера Свіцязь.

У аднаўленай капліцы на старых каталіцкіх могілках адбылася імша памяці лідчан, якія пакінулі белы свет, і жывых землякоў. Серыя хвалюючых сустрэч закончылася адпачынкам на Нёмане.

У ходзе з'езда прайшло шмат, так бы мовіць, прыватных спатканняў. Сустракаліся былыя калегі па вучобе ў школах, гімназіі і педвучылішчы, ранейшыя суседзі. Знайшліся аматары бліжэй пазнаёміцца з Веславам Гярлоўскім, які ўзначальвае ў Польшчы Таварыства апрацоўшчыкаў бурштыну і ювеліраў і кіруе грамадскім камітэтам па будаўніцтву бурштынавага алтара ў адным з касцёлаў Гданьска. Лідчан сталага веку цікавіла асоба дачкі камандзіра аднаго з мясцовых батальёнаў Арміі Краёвай у гады акупацыі Рагнера.

І яшчэ колькі слоў пра адметнасць сёлетняга з'езда. У адрозненні ад папярэдніх – на гэтым пераважалі прадстаўнікі моцнага полу. Сярод дэлегатаў былі не толькі пакінуўшыя ў свой час колішні Лідскі павет землякі а і іх дзеці ды ўнукі.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Данесьці Слова Божае ў беларускай мове да сэрцаў людзкіх

Біблія ў нацыянальнае мове ёсць завяршальны этап праверкі нацыі на сталасьць і самарэалізаванасьць. Дзьве першыя спробы перакладу Бібліі Францішка Скарыны на старабеларускую мову ды Яна Станкевіча на віленска-літоўскі дыялект не былі прызнаныя царквой. Гаворяць, Бог любіць тройцу. Шчыра спадзяемся, што трэці варыянт перакладу будзе прыняты як цэрквамі, так і беларускім народам. Маем вялікае спадзяваньне, што плён 14-гадовай працы вядомага беларускага перакладчыка Васіля Сёмухі станецца значным унёскам у справу дасягненьня поўнага паразуменьня і ўсталяваньня хрысціянскае еднасьці паміж вернікамі ўсіх канфэсіяў Беларусі. Спадар Васіль сьвядома на этапе перакладу не карыстаўся падтрымкай ніводнае з хрысьціянскіх канфэсіяў, маючы на мэце, што Біблія ёсьць кашгоўнасьць Агульнанацыянальная, Агульначалавечая.

У вадрозьненьні ад двух першых перакладаў гэтая Біблія ўжо ёсьць кананічная...

Фінансавалі выданьне прадстаўнікі нацыянальнае дыяспары з Канады, ЗША, беларускія бізнесмэны. З часткай фундатараў была дасягнута дамоўленасьць аб вяртаньні ўкладзеных імі грошай па меры распаўсюджваньня Бібліі. У ідэале вельмі б хацелася, каб Кніга не прадавалася, а раздавалася ўсім ахвотным у цэрквах, касьцёлах, малельных дамах, таксама пажадана было б падарыць Біблію школкам, дзіцячым садкам, дзіцячым дамам. Перадаць колькі соцен асобнікаў Міністэрству ўнутраных спраў, Міністэрству абароны, КДБ (мо стануць троху дабрэй).

Таму вымушаныя зьвярнуцца да Вас з просьбай знайсьці людзей, якія змогуць выкупіць частку накладу, каб данесьці Слова Божае ў беларускай мове да сэрца кожнага беларуса.

*Нашыя каардынаты:*
e-mail: BIBLIJA@TUT.BY
тэл. +375 296 522875
тэл./факс: +375 17 2893194

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

### Яны -- пра нас

## "Пагоня за свабодай"

Пад такой назвай польскія журналісты распачалі ў Беларусі здымкі фільма пра пераслед уладамі апазіцыйнай прэсы.

-- Падстава для ўзнікнення фільма -- гэта, вядома, справа газеты "Пагоня", -- адзначыў журналіст Польскага тэлебачання Юрась Каліна. -- Ад самага пачатку мы пільна сачылі за развіццём падзей вакол выдання, якое спярша зачынілі, а потым распачалі суд над Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам. Дарэчы, у Беластоку практычна ўсе журналісты выйшлі з пікетам да консульства Рэспублікі Беларусь і ўручылі пратэст супраць пераследу нашых беларускіх калег. Пра кожны крок у справе "Пагоні" мы пісалі, распявядалі на радыё, тэлебачанні. Цяпер я хачу паказаць крыху шырэйшы кантэкст праблемы свабоды слова ў Беларусі. Здымачная група Польскага ТБ ужо сустрэлася з асуджанымі да "хіміі" журналістамі "Пагоні" і рэдактарам газеты "Рабочы" Віктарам Івашкевічам, якога таксама чакае суд за "паклёп на прэзідэнта". Пра іншыя сюжэты Юрась Каліна не стаў распавядаць, бо засцерагаецца, што ўлады, дазнаўшыся пра планы, сарвуць здымкі фільма. Удалося толькі даведацца, што польскія журналісты, акрамя Гродна і Мінска, наведаюць іншыя рэгіёны, а таксама распавядуць пра гісторыю нядаўняга затрымання беларускімі памежнікамі накладу бюлетэня "Эмігрант", што выдаецца ў Беластоку палітэмігрантамі з Беларусі. У фільме будзе таксама выкладзена і пазіцыя журналістаў польскіх СМі, якія выказваюць салідарнасць беларускім "братам па пяру".

Паводле слоў Юрася Каліны, фільм "Пагоня за свабодай" планyецца завяршыць да канца гэтага месяца, і неўзабаве ён з'явіцца на першым канале Польскага тэлебачання.

===================================



# Змаганьне з ветракамі

"Трэба разам з Аляксандрам Лукашэнкам абараняць суверэнітэт!" Гэткі заклік час ад часу накіроўваецца на адрас апазіцыі, інтэлігенцыі, "свядомых беларусаў" і г.д. -- увогуле, прызначаны для ўсіх, хто не падтрымлівае (ці зусім не пераносіць) Лукашэнку. Заклік гучыць з розных вуснаў у розных мадыфікацыях і асабліва ўзмацняецца ў моманты павышанай увагі да нашай краіны з боку Расіі.

Нядаўна ў "Народнай волі" з'явілася публікацыя вядомага навукоўца Міхася Малько. Ён даводзіць, як Расія прагне ажыццявіць каварныя планы "аншлюсу XXI стагоддзя". Пад канец выказваецца ўпэўненасць "у тым, што беларуская апазіцыя знойдзе паразуменне з прыхільнікамі А.Р.Лукашэнкі, калі яна ўбачыць, што Аляксандр Рыгоравіч з'яўляецца патрыётам Беларусі, а не "матухны Расіі", якая ўжо гатова саслаць яго ў Тмутаракань".

Раней, поруч з іншымі, пра неабходнасць супольна з Лукашэнкам бараніць незалежнасць выказваўся вядомы публіцыст Сяргей Дубавец. Прычым ён дайшоў нават да таго, што прапанаваў апазіцыі, з мэтаю паразумення, адмовіцца ад некаторых рэчаў, што раз'ядноўваюць яе з Лукашэнкам, -- у прыватнасці, спыніць пастаянныя ўзгадванні пра зніклых апанентаў Лукашэнкі.

Ня буду засяроджвацца на маральным аспекце падобных тэзісаў -- зазначу толькі, што прапанова забыцца на ўсё дзеля якіх бы там ні было высокіх мэтаў для мяне гучыць па-дзікунску. Па-першае, мне, напрыклад, зусім не ўсё роўна, менавіта ў якога кшталту незалежнай дзяржаве жыць; мяне не прывабнівае перспектыва правесці жыццё ў краіне, якой кіруе Лукашэнка, -- г.зн. жабрацкай, за якую сорамна, якая выклікае пагарду ў цывілізаваным свеце, дзе знікаюць людзі, няма дэмакратычных праў і свабод, і г.д. -- такім чынам, я б хацеў, каб гэты рэжым сканаў як мага хутчэй. Па-другое, заклік "абараняць беларускі суверэнітэт разам з Лукашэнкам" мае прыкладна столькі ж сэнсу, колькі, скажам, заклік абараняць жывёлаў разам з браканьерамі ды скуралупамі або правапарадак разам з забойцамі ды бандытамі.

Апошні парадокс, дарэчы, зусім не з вобласці фантастыкі: летась альтэрнатыўны кандыдат Уладзімір Ганчарык, абнародаваўшы звесткі пра зніклых палітыкаў, звярнуўся з просьбаю правесці сапраўднае расследаванне да... Аляксандра Лукашэнкі, які, па некаторых меркаваннях, можа мець дачыненне да гэтых самых зьнікненняў. Натуральна, плёну ад гэтага звароту не было дый не магло быць апрыёры. Гэтаксама як і ад намеру "супольнай з Лукашэнкам абароны незалежнасці".

Прычыны падобных заклікаў, уяўляецца, палягаюць у глыбока ўкаранёнай звычцы мець піетэт да ўлады, ладзіць з начальствам, якім бы пачварным яно ні было. Калі ёсць хаця прывідная магчымасць рабіць штонебудзь разам з начальствам -- трэба яе абавязкова скарыстаць, не зважаючы ні на якія акалічнасці. (Хай не крыўдуюць памянёныя асобы: гаворка ідзе не пра персаналіі, а пра з'явы.)

Ёсць і другая прычына. На жаль, многія апазіцыйна настроеныя людзі насамрэч выйшлі з таго ж бальшавіцкага шыняля, толькі што пераніцаваўшы яго навыварат. Так, камуністы заўсёды займаліся пошукам знешніх ворагаў, якія найперш і вінаватыя ў нашых бедах. Ворагі звычайна знаходзіліся на Захадзе, у прыватнасці, у Амерыцы. Гэтак жа робіць і Лукашэнка. Частка апазіцыйных палітыкаў і аналітыкаў скарыстоўвае тую ж мадэль мыслення, толькі месца Захаду заняў Усход: Расія. Адтуль ідзе да нас розная трасца, і, галоўнае, Крэмль толькі і марыць, каб далучыць да сваёй імперыі сінявокую Беларусь. Нядаўнія заявы Пуціна наконт інтэграцыі (у сэнсе: альбо давайце аб'ядноўвацца, альбо хопіць балбатаць пра саюзную дзяржаву) і наступную масіраваную крытыку Лукашэнкі па расійскіх тэлеканалах пазьнякоўская Кансерватыўна-Хрысціянская партыя адназначна расцаніла як новую спробу акупацыі нашай краіны. Ну, з пазьнякоўцамі, дапусцім, ясна -- але ж не толькі яны. Вось і гучыць за чарговым разам знаёмы матыў: давайце бараніць незалежнасць разам з Лукашэнкам!

Узнікае пытанне: ад каго ж вы зьбіраецеся яе бараніць? Бо на самой справе пагроза нашай незалежнасці калі ад каго і зыходзіць, дык, на мой погляд, галоўным чынам якраз ад Лукашэнкі.

Вядома, Беларусь у сучаснай Еўропе -- краіна унікальная (у найгоршым значэнні гэтага слова). Адна з праяў гэтай унікальнасці -- у тым, што першы прэзідэнт суверэннай дзяржавы краевугольным каменем сваёй палітыкі зрабіў... аб'яднанне з суседзямі ў адну дзяржаву (г.зн. ліквідацыю суверэнітэта). Ясна, што ніякага "раўнапраўнага аб'яднання" не магло быць у прынцыпе і гаворка пра нейкія "роўныя правы" заўжды ўспрымалася як трэба, як прапагандысцкая лухта -- насамрэч усе разумелі, што рэальна аб'яднанне можа выліцца толькі ва ўваходжанне Беларусі ў склад вялізнай Расіі. У пуцінскіх заявах адно і было новага, што раней такое ніколі не агучвалася на найвышэйшым дзяржаўным узроўні, а так усе пра гэта ведалі і без Пуціна.

Прычым гатоўнасць да аб'яднання Лукашэнка праяўляў зусім не выключна на ўзроўні рыторыкі. У свой час, калі Лукашэнка мроіў, што яму падфарціць на расійскай палітычнай авансцэне, ён прагнуў дастаць краевугольны камень сваёй палітыкі з-за пазухі і кінуць яго ў расійскі гарод: утыркнуцца ў Расію, захапіўшы з сабою Беларусь. Пра інтэграцыю ён тады размаўляў з сапраўдным імпэтам і сцішыўся, толькі калі прэм'ерам Расіі стаў Пуцін і пытанне аб пераемніку Ельцына было вырашана. Пасля гэтага інтэграцыя набыла млявы характар з абодвух бакоў.

Каб Крэмль жадаў далучэння Беларусі, "развесці" Лукашэнку было лягчэй лёгкага: падманіць і падмануць нібы магчымасцю пазмагацца за расійскі трон -- а пасля паказаць буйную дулю, маўляў, ёсць ужо ў Ельцына нашчадак. Паспрабуй Лукашэнка скласці Пуціну канкурэнцыю -- дык няцяжка ўявіць, у які блін яго расплясквалі б тэлевізійныя кілеры тыпу Дарэнкі: Лукашэнка ж куды больш шыкоўная мішэнь для СМІ, чым той жа Лужкоў.

Аднак справа ў тым, што Расіі непатрэбна фармальнае далучэнне Беларусі. Кантроль -- і палітычны, і расійскага капіталу -- гэта так. Але пры гэтым няхай Беларусь будзе сатэлітам у намінальна суверэнным статусе.

Уваходжанне Беларусі ў склад Расіі стварыла б для апошняй шмат праблем. Навошта ёй яшчэ адзін эканамічна адсталы і палітычна нестабільны рэгіён з шалапутным кіраўніком? Уладзімір Пуцін адкрытым тэкстам выказаўся пра гэтую небяспеку: многія грамадзяне Беларусі аб'ядноўвацца з Расіяй не хочуць. Такім чынам, пры гэтым варыянце не выпадала чакаць у Беларусі стабільнасці. Больш за тое, нестабільнасці дадалося б па ўсёй Расіі. Нагадаем, як адразу пасля падпісання саюзнай дамовы кіраўнікі некаторых расійскіх аўтаномій заявілі, што ў выпадку аб'яднання запатрабуюць сабе суверэнных праў не меншых, як у Беларусі. Не кажучы пра міжнародны аспект: ускладненні, якія б узніклі ў выпадку далучэння Беларусі да Расіі, сталіся б ніяк не сумяшчальнымі з пуцінскім курсам на збліжэнне з Захадам.

Мо ў Расіі змяніліся планы і зараз яна гатовая ісці на згаданыя нястачы дзеля святой справы аб'яднання славянскіх народаў? Наўрад ці, -- але нават не выключаючы гэтага, усё адно: небяспеку для суверэнітэта Беларусі ўяўляе сабою не Расія, а Лукашэнка.

Падчас вайсковага параду Лукашэнка выступіў з прамоваю, наскрозь працятай паняццем "суверэнітэт". Расійскія тэлеканалы зважалі, што Лукашэнка ў сваім выступленні "ігнараваў Расію". Можна, канешне, загаласіць ва ўсю моц: вось яна, праява імперскай сутнасці!!! Але калі зірнуць на справу спакойна і цвяроза, дык узнікае пытанне: а ці магчыма ўявіць, каб які заўгодна шавіністычны тэлекаментатар выказаў нешта падобнае ў дачыненні, скажам, да Украіны або Грузіі (не кажучы пра Балтыю)? Узгадаюць кіраўнікі іншых дзяржаў постсавецкай прасторы пра саюзніцтва з Расіяй на сваіх Днях незалежнасці -- ну дык добра, дзякуй, тэлевізія гэта адзначыць; не ўзгадаюць -- то і не ўзгадаюць, дзівіцца няма чаму. Чаму ж дзівіцца ў нашым выпадку? Хто паставіў справу так, што няспынная агіднае сюсюканне наконт "брацкай Расіі" зрабілася нормаю? Толькі Лукашэнка.

Да таго ж менавіта якім чынам Расія будзе акупіраваць Беларусь? Мо ўвядзе войскі ды пачне змагацца з беларусамі, якія страявым крокам шпацыравалі па плошчы на гэтым парадзе?! Не -- часцей сцвярджаюць, што "аншлюс" можа адбыцца ў форме рэферэндуму, вынікі якога, калі трэба, сфальсіфікуюць. Але хто сфальсіфікуе -- няўжо расіяне? Змахлярыць тут можа, ізноў жа, Лукашэнка.

Паглядзім: за 8 год былі найрадчэйшыя выпадкі, калі беларускі "бацька" выступаў на беларускай мове і казаў пра беларускі суверэнітэт па-за сувяззю з Расіяй. Гэта здаралася тады, калі ён быў пакрыўджаны на Крэмль. Як і зараз на парадзе. А зменіцца кан'юнктура, прытрызніцца Лукашэнку, што з далучэння Беларусі да Расіі ён будзе мець асабістую выгоду -- што тады? Адказ зразумелы.

Ня варта шукаць вонкавых пагроз. Галоўная патэнцыяльная пагроза суверэнітэту знаходзіцца ў самой Беларусі. Таму, у прыватнасці, фраза "Трэба змагацца за незалежнасць разам з Лукашэнкам" заклікае да змагання з ветракамі -- нармалёвы сэнс яна можа мець, хіба калі прыбраць адтуль слова "разам". Пры гэтым, праўда, вельмі важна не дапусціць, каб Лукашэнкаў дзяржаўны штандар не перахапіў нехта яшчэ больш прамаскоўскі і паслухмяны Крамлю -- але гэта асобная праблема. *Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ. (Н.В.)*

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Сустрэча беларускага зямляцтва ў Чыкага.

Пяць гадоў таму эмігранты з рэспублік былога Саюзу ўтварылі добраахвотную грамадскую арганізацыю – Асацыяцыю "Землякі". Побач з іншымі ўтварылася і беларускае зямляцтва. Чарговая сустрэча беларусаў адбылася 14 ліпеня ў гасцінннай залі чыкагскага ОРТ-інстытуту. Яна была прысвечана чарговай гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецкафашысцкіх захопнікаў і двум знамянальным ліпеньскім юбілеям: 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і 115-годдзю Марка Шагала.

Адкрыў урачыстасць прэзідэнт беларускага зямляцтва Асацыяцыі "Землякі" Іосіф Кацман. У сваім лірычным вершы, які ён напісаў спецыяльна да гэтай сустрэчы, ён заклікаў усіх "адкінуць слова "настальгія" і проста ўспомніць Беларусь". Усіх прысутных вітаў дырэктар ОРТ-інстытута Артур Элдар. Быў паказаны слайд-фільм, падрыхтаваны кіраўніцтвам беларускага зямляцтва. Прысутныя ўбачылі краявіды гарадоў і вёсак Беларусі, цікавыя архітэктурныя помнікі, непаўторныя лірычныя пейзажы беларускай зямлі. М.Рапапорт суправаджала паказ чытаннем славутай "Спадчыны" Янкі Купалы, урыўкаў з "Новай зямлі" Якуба Коласа, вершаў беларускіх паэтаў Міколы Аўрамчыка, Адама Русака, Ніла Гілевіча, Сяргея Панізніка. Музычную праграму паспяхова вёў Аркадзь Пеўны. Спецыяльнымі прызамі былі ўзнагароджаны актыўныя ўдзельнікі ўсіх пяці папярэдніх сустрэч беларускага зямляцтва.

*Ванкарэм Нікіфаровіч*

# Ізраіль зачыніў амбасаду ў Менску

Ізраіль зачыняе сваю амбасаду ў Менску, якая праіснавала роўна 10 гадоў. Пра гэта заявіў афіцыйны прадстаўнік МЗС Ізраілю, які прыбыў у Менск з двухдзённым візітам. Прадстаўнікі габрэйскіх арганізацыяў у Беларусі выказваюць занепакоенасць адносна таго, што закрыццё амбасады прывядзе да "новых успышак антысэмітызму".

Пра закрыццё амбасады Ізраілю ў Менску абвесьціў намесьнік генэральнага дырэктара МЗС Ізраілю Давід Пэлег, які прыбыў 29 ліпеня ў Менск для кансультацыяў паміж МЗС Беларусі й Ізраілю. Закрыццё амбасады ён патлумачыў не палітычнымі, а тэхнічнымі матывамі. "Краіна змушаная ісьці на скарачэньне бюджэту МЗС Ізраілю" - заявіў журналістам Давід Пэлег. Ён таксама паведаміў, што тэхнічныя ўмовы існаваньня ў Беларусі дыпляматычнага прадстаўніцтва Ізраілю будуць вызначаныя пазьней.

Давід Пэлег ня стаў зьвязваць закрыццё амбасады ў Менску з фактамі антысэмітызму ў Беларусі. Камэнтуючы факты разбурэньня габрэйскіх могілак у краіне, Давід Пэлег сказаў: "Выпадкі вандалізму характэрныя для ўсяе Эўропы". Ён выказаў спадзеў, што ўрад Беларусі зробіць "адпаведныя захады".

У той жа час віцэ-прэзыдэнт Саюзу габрэйскіх арганізацыяў і грамадаў Беларусі Якаў Басін мае занекоенасць адносна таго, што закрыццё амбасады выкліча чарговыя выбухі антысэмітызму ў нашай краіне. "Адкрыццё амбасады у Беларусі роўна 10 гадоў таму відавочна зьнізіла антысэміцкія настроі й выбіла глебу ў ваяўнічых маргінальных груповак. Я баюся, што закрыццё амбасады прывядзе да чарговых успышак антысэмітызму" - гаворыць Якаў Басін.

Паводле паведамленьня прэсавай службы МЗС Беларусі, у часе двухдзённага візыту прадстаўнік МЗС Ізраілю сустрэнецца з кіраўніком прэзыдэнцкай Адміністрацыі Ўралам Латыпавым, віцэ-сьпікерам Уладзімерам Канаплёвым, міністрам замежных справаў Міхаілам Хвастовым.

У часе перамоваў будуць абмяркоўвацца пэрспэктывы абмену дэлегацыямі дзелавых колаў дзьвюх краінаў, удзел у выставах, што праводзяцца ў Беларусі й Ізраілі. Бакі разгледзяць некаторыя пляны ажыцьцяўленьня шэрагу інвэстыцыйных праектаў з удзелам ізраільскага капіталу - у прыватнасьці, стварэньня сумеснага прадпрыемства па выпуску аўтамабільных фільтраў, мадэрнізацыі сыстэмаў паркоўкі й будаўніцтва буйнога гандлёвага цэнтру ў Менску.

Цяпер у Беларусі пражывае каля 27 тысяч габрэяў, у Ізраілі - больш за 120 тысяч чалавек, народжаных у Беларусі.

***************************************************

**Папа Рымскі** Ян Павал Другі справіў імшу пад адкрытым небам у Таронта Канада. Набажэнства сабрала каля мільёна чалавек. Напярэдадні, у часе выступу перад аўдыторыяй з нагоды Ўсясьветнага дня моладзі, Пантыфік сказаў, што падзеі 11 верасьня ў ЗША сталіся сымбалем усясьветнага ліха, перамагчы якое можна толькі шляхам любові й збудаваньнем цывілізаванага сьвету. Далей Папа Рымскі накіроўваецца ў Гватэмалу й Мэксыку.

---

# Нацыянальныя каштоўнасці

## Беларуская ідэя

Першаснай інтэлектуальнай і духоўнай каштоўнасцю нацыі ёсць Нацыянальная ідэя. Без яе нацыя не можа ні ўзнікнуць, ні існаваць. Гэта ёсць нацыянальная ідэалогія: усведамленне неабходнасці незалежнага нацыянальнага існавання; стварэнне нацыянальнай дзяржавы; развіццё нацыянальнай культуры; усведамленне нацыянальнай самакаштоўнасці саміх сябе (народа, нацыянальнай супольнасці).

Асэнсаванне Нацыянальнай ідэі і дэтэрмінацыя яе (прычынна-абумоўленая сувязь) з кожнай нацыянальнай асобай ёсць чыннікам нацыянальнай свядомасці грамадства.

Палітычная практыка і гісторыя краін паказала, што калі ў грамадстве няма "першаснай каштоўнасці нацыі" ці калі Нацыянальная ідэя нясспелая, а нацыянальная свядомасць людзей невысокая, то ніякія іншыя перавагі, нават вельмі значнага матэрыяльнага кшталту, не дапамогуць грамадству самаразвіцца, сцвердзіцца і свае перавагі рэалізаваць.

Ні багатыя прыродныя рэсурсы, ні вялікая колькасць маёмных, адукаваных людзей, ні культурная спадчына гістарычнага мінулага, ні развітая эканоміка -- нішто не паспрыяе, калі насельніцтва не ўсведамляе агульных інтарэсаў і агульных каштоўнасцяў нацыі, калі не разумее абсалютнай нацыянальнай каштоўнасці саміх сябе, сваёй супольнасці, мовы, культуры і гісторыі. Такое грамадства страціць свае багацці, апынецца ў залежнасці ад іншых, дэградзіруе, занепадзе.

Прывяду прыклад. У 1991 годзе (у год аднаўлення незалежнасці і ліквідацыі ўлады КПСС) Беларусь, адносна сваіх суседзяў (Польшчы, Літвы, Латвіі, Украіны) была самай перадавой краінай па жыццёвым узроўні. (*савецкая бздура, Б.Д.*) У Беларусі (адносна гэтых краін) была добра развітая структура таварнай вытворчасці і эканомікі, высокая навукаёмістасць вытворчасці, збалансаванасць прамысловасці, стратэгічная вытворчасць, нафтавая, хімічная, электронная, аптычная, тэкстыльная і харчовая, транспартная і г.д. Тут была найлепшая ў былым СССР чыгунка, найлепшая сельская гаспадарка, найбольшая колькасць ворнай зямлі ў Еўропе з разліку на душу (каля аднаго гектара). Тут была высокаразвітая фундаментальная і ўжытковая навука, структураваная сістэма сярэдне-спецыяльнай і вышэйшай адукацыі, добры ўзровень медыцыны, высокі ўзровень і вялікі працэнт адукаваных спецыялістаў, добрая кваліфікацыя рабочых і агульная адукацыя насельніцтва, наяўнасць важных прыродных рэсурсаў.

Ніводная з пералічаных краін не мела тады такога становішча. Эканамічны патэнцыял Беларусі пераўышаў патэнцыял значна большай па насельніцтве Польшчы (!?) (не кажам ужо пра войскі і ўзбраенні).

Цяпер, аднак, праз 10 гадоў Польшча -- ужо ў НАТО, краіна з рынкавай эканомікай, мае еўрапейскі выгляд, збіраецца ў Еўрасаюз. Пайшлі наперад Балтыйскія краіны, умацавалі валюту, будуюць новую гаспадарку. Нават Украіна, дзе быў даволі нізкі жыццёвы ўзровень і вельмі складаныя праблемы ў эканоміцы, выбралася на лепшую перспектыву, добра ўспрымаецца ў свеце.

Толькі ў Беларусі за гэты час усё змарнавана. Яна збяднела, з'ехала найніжэй, і само існаванне яе дзяржаўнай незалежнасці пастаўлена пад пагрозу.

У чым жа прычына, чаму так сталася ў краіне, якая рэальна магла б быць наймагутнейшай і найбагацейшай на ўсходзе Еўропы, гэтакім усходне-еўрапейскім драконам, як спрабавалі ўжо характарызаваць яе будучыню.

Так, згодзен, ёсць пытанне знешняй палітыкі. Расія адчула ва ўзвышэнні незалежнай Беларусі смяротную небяспеку для сябе, для існавання яе як імперыі, для таемных мараў усё вярнуць. Эканамічна магутная, з высокім жыццёвым узроўнем Беларусь паўплывала б на ўвесь рэгіён як станоўчы прыклад, стала б звязваючым звяном новага жыцця ва Усходняй Еўропе. Імперскія ўплывы Расіі тут бы вельмі аслабелі, прыйшлося б развітацца з імперскімі марамі на Захадзе і будаваць раўнапраўныя дачыненні.

Таму беларускі напрамак быў аб'яўлены кірункам №1 па важнасці ў расійскай знешняй палітыцы, і ўся магутнасць яе спецслужбаў, дыпламатыі, хітрасць розумаў "гайдараў" і так званых "расійскіх дэмакратаў" запрацавалі ў зададзеным рэжыме.

Яны дасягнулі вынікаў. Беларусь узначаліў свой прарасійскі кіраўнік, які дапамог расійскім спецслужбам ажыццявіць акупацыю беларускай улады знутры.

Аднак знешнія прычыны -- гэта ўсё ж недастатковае тлумачэнне заняпаду Беларусі. Адсутнасць шырокага разумення ў беларускім грамадстве таго, што рэальна адбылося і адбываецца, адсутнасць рэальнага і шырокага супраціўлення ўнутранай акупацыі гавораць аб тым, што прычына -- ўнутры.

Ва ўсіх суседніх краінах не было такога матэрыяльна-эканамічнага ўзроўню, як у Беларусі, але існавала галоўнае, што рабіла іх моцнымі, гарантавала нацыянальнае і дзяржаўнае існаванне і развіццё. Гэтае галоўнае -- высокая нацыянальная свядомасць людзей, нацыянальная самасвядомасць грамадства. Гэта зрабіла іх свабоднымі, гэта дапамагло стварыць ім нацыянальную дзяржаву і падняцца з нізін.

Беларусь, якой пасля вайны за часы СССР, нягледзячы на вынішчэнне і генацыд, пашанцавала акамуляваць сваю працу ў сістэме савецкай гаспадаркі і часткова ўтрымаць яе вынікі на сваёй тэрыторыі, гэтай працавітай Беларусі не ўдалося захаваць на ўзроўні сваю нацыянальную культуру. Краіна страціла беларускую школу (якая фарміруе беларускую асобу), не зберагла павагу да беларускай мовы ў грамадстве, трапіла пад навалу шалёнай саветызацыі, дэнацыяналізацыі і русіфікацыі.

На пачатку 90-х гадоў у беларускім грамадстве было ўсё для новага годнага нацыянальна-дзяржаўнага еўрапейскага развіцця. Але не было галоўнага: моцнай нацыянальнай свядомасці людзей. У выніку -- наша грамадства страціла ўсе свае матэрыяльныя перавагі і магчымасці, апынулася перад пагрозай страты незалежнасці, народнай маёмасці і ўвогуле – гістарычнага існавання.

Вось што такое нацыянальная свядомасць людзей. Гэта калектыўны розум нацыі. Гэта сведчанне існавання духоўнай індывідуальнасці народа, якая дзейнічае разумна, паводле агульнай неабходнасці патрэб і інтарэсаў нацыі.

Калі б у 1991 годзе гэтая беларуская нацыянальная свядомасць ужо была б адроджана, лёс Беларусі быў бы іншым.

Незалежнасць Беларусі вярнуў беларускі нацыянальна-дэмакратычны авангард (гэта значыць Народны Фронт, і ўсе, хто вакол яго). Першыя, што нацыянальна адрадзіліся, рынуліся на свядомае і святое змаганне і малою сілаю --перамаглі. Гэта было няпроста. Бо справа вымагала выключнасці, не цярпела прамаруджвання, нясмеласці і памылак.

Але далей, каб вырашыць пытанне новай нацыянальнай улады і новай нацыянальнай дзяржавы, трэба было абаперціся на свядомае гэтым нацыянальным задачам грамадства, на свядомыя грамадскія сілы. Сіл было замала.

Ужо летам 1992 года Масква (у асноўным спецслужбы), злучыўшыся з беларускай каланіяльнай адміністрацыяй (урадам і наменклатурай), перайшла ў наступ на вольную Беларусь.

* * *

Нацыянальная ідэя -- гэта ідэя аб'ядноўчага выбару. Гэта абазначае, што яна не з'яўляецца ідэяй кампрамісу, але -- прынцыпу. Тут трэба выбіраць: альбо-альбо. Але тым часам гэта ёсць ідэя менавіта аб'яднаўчая для ўсіх, нават калі б спачатку за ёй стаяў толькі адзін чалавек, ці два, ці -- невялічкая група.

Чаму гэтак ёсць? Таму што Нацыянальная ідэя -- не што іншае, як вынікова, практычная і універсальная мэта, якая аб'ектыўна вынікае з жыццёвага становішча і з духоўных інтарэсаў народа.

Нацыянальную ідэю ніякі мудрэц не прыдумаў. Яе нарадзіла нацыя. Людзі аднае культуры, аднае мовы, аднае гісторыі, тэрыторыі, знаходзячыся ў аднолькавых сацыяльна-палітычных умовах, паступова ўсведамляюць аднолькавую нацыянальную неабходнасць. Нават тыя, што з пабочных прычын спачатку не разумелі і не прымалі Нацыянальнай ідэі, ці тыя, што былі да ўсяго абыякавыя. Нацыянальная ідэя, пашыраючыся, развіваючыся, увасабляючыся і сцвярджаючы сябе, паступова набірае падтрымкі, бо аб'ектыўна -- не супярэчыць грамадскім інтарэсам народа, а толькі выяўляе і фармулюе іх. Нацыянальная ідэя рухаецца як шлях нацыянальнай праўды. Кожны ў народзе знаходзіць там свой інтарэс, яна не ёсць ідэяй абстрактнай, але канкрэтнай формулай, абапертай на агульнае народнае дабро.

Уявім найпрасцейшыя прыклады. Калі, магчыма, вельмі простаму чалавеку тлумачыць: ты працуеш на зямлі і хочаш мець яе ва ўласнасць. Ты атрымаеш такую квоту зямлі, якую зможаш апрацаваць. Дадзім табе трактар наперад, у кошт крэдыту. Выплаціш крэдыт з ураджаю, паступова, за 10 гадоў. Гарантуем табе, што прадасі сваю бульбу і жыта. Але дзеля гэтага нам усім разам трэба стварыць сваю дзяржаву са сваіх людзей, каб мець свае законы "пра твой трактар", тваю зямлю і гарантыі прадажу жыта на ўнутраным рынку, пра твае падаткі і мыта на межах (каб абараніць тваю працу) і г.д.". То ў рэшце рэшт, ці ні пагодзіцца з гэтым чалавек? Альбо пытаем: калі мы з табой будзем мець сваю беларускую ўладу, то ці будзе яна перайменоўваць тваю вёску Быкоўшчына ў вёску "Сірэнь"?

Нацыянальная ідэя, нават у дэталях, у самым простым -- гэта ідэя здаровага сэнсу. Яна свая. Таму яна аб'яднаўчая, патрабуе асветніцтва, тлумачэння сваім людзям і змагання за яе -- з чужой палітыкай.

Той жа прыклад, але ў рэчышчы ідэі абстрактнай (чужой, нездаровага сэнсу). Ты працуеш на зямлі, але не маеш яе. Давай адбяром у тых, хто мае яе шмат, і дадзім табе, колькі трэба. Але потым -- абагулімся, складзём зямлю ў адно, разам з жывёлай і інвентаром. І будзеце ўсе разам, такія, як ты, на ёй працаваць. Бульба і жыта -- агульныя. Частку ўраджаю падзеліце паміж сабой, а астатняе -- Маскве за тое, што нас аберагае і намі кіруе. Быкоўшчыну назавём "Камінтэрн".

Тлумачэнні, мяркую, не патрэбныя. Як укаранялася гэтакая ідэя -- добра вядома. Яе не растлумачыш, не пакажаш, не дакажаш і не ўспрымеш, ці ты адукаваны, ці ты неадукаваны. Бо яна не вынікае ні з жыццёвых абставін, ні з сацыяльных патрэб, ні са здаровай логікі. Гэта тыпова разбуральная, раз'ядноўчая ідэя, не адпаведная жыццю, якая (каб існаваць) патрабавала маўзера, калючага дроту і лозунгу: "Хто не з намі, той супраць нас".

* * *

Нацыянальная ідэя з'яўляецца ідэяй прынцыпу і выбару, але (як я ўжо адзначыў) -- не канструкцыяй кампрамісаў. Некаторыя наіўныя людзі (зрэшты, і зацятыя дэмагогі таксама) шчыра мяркуюць, што ва ўсіх выпадках грамадскіх сутыкненняў і саперніцтва процілеглых тэндэнцый у палітыцы ды сярод людзей, трэба заўсёды не канфліктаваць, а шукаць нечага агульнага, прымальнага для ўсіх. Такія людзі здаюцца палітычнымі мудрацамі, разважаюць то пра "цэнтрызм", то пра "мастацтва кампрамісу" і г.д., думаючы, што валодаюць універсальнай тэхналогіяй дэмакратыі.

Квінтэсенцыю такой "тэхналогіі" выявіў некалі ў польскім Сейме наш беларускі сенатар Аляксандр Уласаў. "Усё будзе добра, панове, -- звяртаўся ён да сенатараў-дыскутантаў, -- толькі нічога не трэба рабіць".

Кампраміс магчымы (і можа быць плённым) па збліжаных і альтэрнатыўных пазіцыях. Сутнасць жа ў тым, што ў Нацыянальнай ідэі не існуе нацыянальнай альтэрнатывы. Яе абагуленасць -- абсалютная. Яе альтэрнатыва знаходзіцца за межамі нацыі і з'яўляецца антаганізмам. Кампраміс паміж антаганістамі практычна немагчымы (альбо -- альбо). Хіба што гэта будзе кампраміс абсурду.

Не існуе здаровага кампрамісу, скажам, паміж антаганізмам жыцця і смерці: быць ці не быць. Але аб'ядноўчы сэнс для людзей (здаровы сэнс), нягледзячы на дыяметральную супрацьлегласць ідэй, знаходзіцца ў пазіцыі жыцця: "Быць".

Значыцца, калі мы гаворым "быць" -- мы можам урэшце ўсіх аб'яднаць, хоць бы большасць меркавала з нейкіх прычын, што "быць" -- не трэба.

За "быць" (гэта значыць жыць) -- трэба змагацца, бо жыць -- мусім усе.

Добра, што за часы Хрыста не было дэмакратыі. А то арганізавалі б "круглы стол" па дасягненні кампрамісу паміж Хрыстом і фарысеямі.

Ідэя ад ідэі адрозніваецца, і не ўсё -- дзеліцца папалам. Каб разумець гэта, Бог і даў чалавеку розум.

Калі глянуць на гісторыю еўрапейскага Адраджэння ў XIX стагоддзі, то ўбачым якраз такую аб'яднаўчую карціну: рух Нацыянальнай ідэі ад малога -- да вялікага, праз асвету і змаганне і нясенне Крыжа дзеля шчасця і будучыні ўсяго народа. Гэта такое змаганне, дзе кожны венгр ці кожны чэх, ці кожны беларус быў у Нацыянальнай ідэі -- сябрам.

* * *

Пэўная катэгорыя людзей у Расіі і іхнія прадстаўнікі ў Беларусі вельмі не любяць Беларускую Нацыянальную Ідэю. Але заўважана, што яны яе і баяцца. Пакусваюць, ды спадцішка, скрытна, між іншым, не ўдаючыся ў вялікія разважанні. А так звычайна робяць выгляд, што яе няма. Ды і самі яны, маўляў, амаль клапоцяцца пра Беларусь, шукаюць, быццам бы, шляхоў выхаду (у Расію, вядома).

Мітусня ўсё гэта. Пустата. Дэмагогія і часовае напружанне ў думках. Пераможа праўда, бо такая яе прырода. Беларусь была і будзе.

Каб змагацца, трэба быць разам. Аб'яднаць беларусаў можа толькі Беларуская Ідэя. А гэта ёсць Ідэя нашага вольнага нацыянальнага жыцця ў незалежнай Беларускай дзяржаве. Беларусаў не можа злучыць чужая Нацыянальная ідэя ці чужая дэмакратыя, а толькі -- разлучыць. Вось чаму за сваю ідэю трэба змагацца супраць чужароднага.

Сапраўды так. Ёсць толькі адна дарога выратавання Беларусі. Змагацца. Супраціўляцца знішчэнню, русіфікацыі, этнацыду. Нельга цярпець, каб нас пры́ніжалі, таптаці ў бруд наша імя, зняважалі нашу мову і род, забіралі маёмасць.

Як гэта ні дзіўна, але, каб абараніцца, трэба вельмі няшмат: адчуць гонар за свой народ і адказнасць за ягоную будучыню.

Зянон ПАЗЬНЯК. (Нар. Воля)

**************************************************

# ЗЬБІГНЕЎ БЖЭЗІНСКІ: "ЧАСЫ ІМПЭРЫЯЛІЗМУ Ў ЭЎРОПЕ АДЫШЛІ"

Зьбігнеў Бжэзінскі лічыцца адным з найлепшых у ЗША экспэртаў у справах Цэнтральнай ды Ўсходняй Эўропы. Былы дарадца прэзыдэнта ЗША ў інтэрвію Радыё Свабода кажа аб пэрспэктывах Беларусі.

Ад 1977 па 1981 год спадар Бжэзінскі быў дарадцам прэзыдэнта ЗША ў нацыянальнай бясьпецы. Тады ён быў ўзнагароджаны прэзыдэнцкім мэдалём за вялікі ўнёсак у нармалізацыю амэрыканска-кітайскіх адносінаў і ў фармуляваньне палітыкі ЗША ў сфэры нацыянальнай бясьпекі й правоў чалавека. У 1995 годзе спадар Бжэзінскі атрымаў найвышэйшую ўзнагароду Польшчы – Ордэн Белага Арла – за ўнёсак у аднаўленьне польскай незалежнасьці. Сёньня спадар Бжэзінскі працуе дарадцам ў Цэнтры стратэгічных і міжнародных дасьледаваньняў і выкладае ва Ўнівэрсытэце Джона Хопкінса ў Вашынгтоне.

У сваёй кнізе "Вялікая шахматная дошка: Амэрыканскае першынство і яго геастратэгічныя імпэратывы" Зьбігнеў Бжэзінскі называў Украіну "кутнім камянём" бясьпекі для Ўсходняй Эўропы, гэтак жа як і Польшчу для Цэнтральнай Эўропы. Мы запыталіся ў спадара Бжэзінскага, якую геапалітычную ролю, на ягоную думку, адыгрывае Беларусь, і ці можна параўнаць яе значэньне са значэньнем Украіны.

(Бжэзінскі:) "Я думаю, што параўнаньне Польшчы з Украінай, у тым што тычыцца іх рэгіянальных роляў, паказвае, што Беларусь – гэта краіна свайго рэгіёну, але не галоўная сіла ў сваім рэгіёне, якімі могуць быць Польшча ці Ўкраіна. У доўгатэрміновай пэрспэктыве даволі відавочна, што незалежная Беларусь захоча больш блізкіх сувязяў з эўрапейскай супольнасьцю, у тым ліку зь яе асноўным органам нацыянальнай інтэграцыі – а менавіта, з Эўрапейскім зьвязам, а таксама з галоўным органам эўраатлянтычнай салідарнасьці, то бок з НАТО".

(Карэспандэнт:) "Як вы лічыце, ці стане Беларусь у доўгатэрміновай пэрспэктыве часткай эўрапейскіх структураў, ці застанецца ў сфэры ўплыву Расеі?"

(Бжэзінскі:) "Гэта вельмі залежыць ад таго, чаго хочуць самі беларусы. Часы імпэрыялізму ў Эўропе адышлі. Расея, відавочна, мае вялікі ўплыў, але нават Расея сёньня ня можа перашкодзіць беларускаму народу ў пошуках сапраўднай незалежнасьці, калі яны яе жадаюць. Таму самі беларускія людзі мусяць вырашыць – хочуць яны быць незалежнай краінай ці яны хочуць быць правінцыяй іншай краіны".

(Карэспандэнт:) "Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША цяпер разглядае законапраект "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі". Гэты дакумэнт прадугледжвае даволі жорсткія санкцыі адносна беларускага рэжыму. Пры гэтым за мінулы год тавараазварот Беларусі з ЗША склаў толькі 30 мільёнаў даляраў. Мы пацікавіліся ў спадара Бжэзінскага, ці лічыць ён, што санкцыі могуць быць эфэктыўнымі".

(Бжэзінскі:) "Санкцыі – гэта таксама праява палітычнага стаўленьня. Для Беларусі вельмі цяжка мець нармальныя стасункі супрацоўніцтва са Злучанымі Штатамі ў той час, калі яе непрадказальны і ў нечым вычварны дыктатар дзейнічае так, як ён дзейнічаў дагэтуль".

(Карэспандэнт:) "Але ці будуць санкцыі пазытыўным фактарам для зьменаў, ці яны наадварот дапамогуць ператварыць Беларусь у ізаляваную "эўрапейскую Кубу"?

(Бжэзінскі:) "Але яны дзейнічалі шмат гадоў. І даволі відавочна, што камуністычны рэжым на Кубе скончацца. Гэта адбудзецца хутка пасьля сьмерці Кастра. Санкцыі самі па сабе ня могуць прывесьці да грунтоўных зьменаў. Але санкцыі разам з намаганьнямі пашырыць сацыяльныя, інтэлектуальныя кантакты могуць стварыць сытуацыю, у якой палітычныя кошты існаваньня дыктатуры ураўнаважваюцца разьвіцьцём сувязяў, абменаў поглядамі, і гэта стымулюе ў людзях жаданьне палітычных пераменаў".

"Акт аб дэмакратыі ў Беларусі" таксама прадугледжвае выдаткаваньне 40 мільёнаў даляраў у 2003 і 2004 годзе на падтрымку дэмакратыі ў Беларусі, у тым ліку на разьвіцьцё дэмакратычных палітычных партыяў. Некаторыя актывісты апазыцыі кажуць, што партыі ня здолеюць атрымаць доступу да гэтых грошай, бо такое фінансаваньне з-за мяжы забароненае законам. Але само прыняцьце законапраекту можа даць новы козыр беларускім уладам, каб выставіць апазыцыю наймітамі ЗША. Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікола Статкевіч, напрыклад, кажа, што лепей было б, каб у законапраекце вялося аб дапамозе незалежнай беларускай прэсе і каб фінансаваньне пайшло найперш на падтрымку недзяржаўных мэдыяў. Мы папрасілі спадара Бжэзінскага пракамэнтаваць гэта.

(Бжэзінскі:) "Існуе сувязь паміж незалежнымі мэдыямі і незалежнай палітычнай дзейнасьцю. Адно немагчымае бязь іншага. І я ня думаю, што гэта пытаньне спансараваньня палітычнай апазыцыі. Палітычная апазыцыя мусіць існаваць. Калі яна існуе, яе, натуральна, можна заахвочваць і дапамагаць ёй звонку, як гэта адбывалася ў іншых месцах – напрыклад, з рухам "Салідарнасьць" у Польшчы. Я не кажу, што нехта будзе фінансаваць беларускія палітычныя партыі. Але калі такія партыі могуць дзейнічаць, калі яны могуць сфармуляваць сваю пазыцыю, то, натуральна, мае сэнс іх падтрымліваць".

Апошнім часам шмат казалася аб канфлікце паміж Аляксандрам Лукашэнкам і расейскім прэзыдэнтам Уладзімерам Пуціным. Наколькі сур'ёзным лічыць гэты канфлікт спадар Бжэзінскі?

(Бжэзінскі:) "Відавочна, што гэта адлюстроўвае грунтоўныя разыходжаньні ў поглядах і мэтах. Гэта таксама адлюстроўвае той факт, што ў Расеі адбылося нейк болей палітычных зьменаў, чым у Беларусі".

(Карэспандэнт:) "Але ці дастаткова гэтых разыходжаньняў дзеля таго, каб Расея спыніла падтрымку цяперашняга беларускага рэжыму?"

(Бжэзінскі:) "Пытаньне ў тым, якая існуе альтэрнатыва. Расея можа ня мець зацікаўленасьці ў падтрымцы Лукашэнкі, беручы пад увагу ягоныя нестабільныя паводзіны, але ў той жа час Расея, па ўсёй верагоднасьці, ня мае асаблівай зацікаўленасьці ў падтрымцы беларускай незалежнасьці. Расея можа вырашыць больш не падтрымліваць Лукашэнку, калі яна будзе мець альтэрнатыву яму, якую палічыць больш прывабнай. І пытаньне ў тым, ці існуе такая альтэрнатыва".

(Карэспандэнт:) "Усе краіны эўрапейскага рэгіёну былога СССР, у тым ліку і Расея, дэманструюць у той ці іншай ступені намер супрацоўнічаць з Захадам, інтэгравацца ў эўраатлянтычныя структуры. Чым, на Ваш погляд, тлумачыцца, беларуская "анамалія"?

(Бжэзінскі:) "Асноўная прычына – гэта дыктатарскі характар даволі эксцэнтрычнага дыктатара *(сьмех)*. Я думаю, гэта асноўная праблема. Без Лукашэнкі, я думаю, вельмі верагодна, што Беларусь праходзіла б праз некаторыя пэрыяды цяжкіх, часам супярэчлівых пераўтварэньняў, але рухалася б увесь час да больш блізкай каардынацыі і супрацоўніцтва з Захадам".

(Карэспандэнт:) "То бок, вы лічыце асноўнай прычынай асобу Аляксандра Лукашэнкі?"

(Бжэзінскі:) "Не, я назваў бы ягоную дыктатуру асноўнай прычынай".

(Карэспандэнт:) "Гаворачы пра Лукашэнку – за 8 гадоў свайго кіраваньня ён час ад часу рабіў намёкі на магчымасьць "павароту ад Расеі на Захад". На Ваш погляд, калі б такая спроба пераарыентацыі была зробленая ўсур'ёз, ці сталі б заходнія ўрады супрацоўнічаць зь цяперашнім беларускім рэжымам?"

(Бжэзінскі:) "Гэта магчыма, калі "рэарыентацыя" на Захад азначала б сапраўдную рэарыентацыю. Сапраўдная рэарыентацыя – гэта ня толькі словы, ня толькі рыторыка. Гэта прыняцьце дэмакратычных працэдураў, працэсаў ды інстытуцыяў. Трэба ажыцьцявіць нармальныя рэцэпты для эфэктыўна дзеючай дэмакратычнай сыстэмы. І мы ўсе ведаем якія яны – свабода прэсы, свабода для палітычнай апазыцыі, сапраўды свабодныя выбары – гэта, скажам так, мінімальна патрабаваньні для дэмакратыі".

У шэрагу краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы рухавіком антыкамуністычных рэвалюцыяў і далейшых трансфармацыяў, руху ў Эўропу быў нацыяналізм. У той жа час у Беларусі даволі распаўсюджаныя прарасейскія настроі. Гэтым, апроч іншага, выкліканая і пэўная ізаляванасьць нацыянальна арыентаваных сілаў. Мы запыталіся ў спадара Бжэзінскага, ці мусіць, на ягоную думку, нацыяналізм нарэшце спрацаваць і ў Беларусі, ці рухавіком пераменаў тут стануць іншыя сілы?

(Бжэзінскі:) "Я думаю, што ў доўгатэрміновай пэрспэктыве абуджэньне беларускага народу адбудзецца. І яно ўжо адбылося ў некаторых частках Беларусі. Але няма сумневу, што Беларусь была больш зрусіфікаваная, чым любая іншая былая савецкая рэспубліка. Гэта будзе доўгі, працяглы працэс".

(Карэспандэнт:) "На пачатку нашае размовы вы казалі, што Беларусь рана ці позна будзе мець шчыльныя кантакты з эўрапейскімі структурамі. Ці маглі б вы спрагназаваць, наколькі хутка гэта адбудзецца?"

(Бжэзінскі:) "Я ня думаю, што можна рабіць нейкія прагнозы, бо ня будзе нейкай асобнай падзеі, кшталту Алімпіяды, якую можна прывязаць да канкрэтнага году. Мы размаўляем аб працэсе. Але калі Расея будзе збліжацца з Захадам, калі Ўкраіна будзе збліжацца з Захадам нават хутчэй, Беларусь ня здолее пазьбегнуць гэтага працэсу".

~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

# Наша кроў

Прыходзіць адчуваньне, што і найбольш дакладныя душы ўрэшце пераадолелі наступствы пасьлявыбарчага крызысу. Першым зь яго выйшлі палітыкі і сябры няўрадавых арганізацыяў, за імі падцягнуліся аналітыкі і журналісты. Заварушыліся, забегалі. Абвяшчаюць пра новую палітычную і грамадзкую сытуацыю, снуюць новыя дамовы, мяркуюць ствараць новыя альянсы, шукаюць новых асобаў.

З дапамогай "мудрых" аналітыкаў знайшлі ўсё ж, на каго сьпіхнуць віну за пройгрыш — на палітычныя партыі. Пачытаеш у газэтках, дык яны ні вагі ў грамадстве ня маюць, ні аўтарытэту, ні праграмаў, ні тактыкі, ні стратэгіі. І лідэры іхныя не такія, як трэба, — не харызматычныя, жывуць бы на небе, ня могуць павесьці за сабой народ. Словам, партыі — гэта самае слабое зьвяно ва ўсёй нашай грамадзкай раскладцы.

Адзін вядомы сацыёляг ужо абвясьціў, што з партыямі настаў час скончаць, а рэальны палітычны цэнтар можа скласьціся з альянсу паміж сацыялягічнымі і аналітычнымі цэнтрамі, а таксама ўплывовымі грамадзкімі арганізацыямі.

Аналітыкі, няма ім ліку, як паненкі ў казыно, сьціскаюць кулачкі і робяць стаўкі — хто на новых генэралаў, хто на "цябе, нашу моладзь, надзею", хто на эмігрантаў з захаду ці ўсходу — адным словам, на "сьвежую кроў".

Але палітычнае майстэрства патрабуе гэткага ж прафэсіяналізму, як і любое іншае. Немагчыма, каб палітык прыйшоў ад станка ці сахі. Палітыкі гадуюцца гадамі. Ня трэба жывіцца мроямі, быццам нехта за палітыкаў, за партыі зробіць іхную работу.

Мяне больш цікавіць у гэтай сытуацыі стаўленьне беларускага сьведамага грамадзтва да сваіх палітыкаў. Цягам апошніх дзесяці гадоў займелі мы некалькі такіх — яны папрыходзілі з культурніцкага, пісьменьніцкага, навуковага асяродку і адстойваюць інтарэсы Беларушчыны на палітычным полі, зьяўляюцца гарантамі прысутнасьці беларускага элемэнту ў палітычным жыцьці. Яны будуць за Беларусь пры любых абставінах, ня здрадзяць ёй дзеля каньюнктуры і жыцьцёвых выгодаў, бо яны — наша кроў і наша костка. Зь імі вымушаная лічыцца "тожабеларуская" апазыцыя. І гэта ці не найвышэйшае дасягненьне беларускага сьведамага грамадзтва, бо, толькі палітычна выяўленае. яно мае шанцы не змаргіналізавацца і ня зьнікнуць. Яго не задушаць законамі, абмежаваньнем правоў, не палічаць за быдла, што можа абысьціся і без вышэйшай адукацыі на роднай мове. Сапраўды беларускія палітыкі — зарука нашага далейшага нацыянальнага разьвіцьця.

Але ці не найбольшая крытыка, плявузганьне, перамываньне костак, перакручаныя чуткі і недарэчныя плёткі плывуць на сьведамых палітыкаў са свайго ж непалітычнага беларускага асяродку, адкуль яны выйшлі і чые інтарэсы яны прадстаўляюць.

Разумею, шмат можна казаць пра іхныя недахопы і хібы, але давайце пагледзім на іншых — з былой партнамэнклятуры, з кагорты палкоўнікаў і палітрукоў, з камсамольцаў і масквафілаў, эксміністраў і эксбанкіраў, з "дэмакратаў наагул", для якіх Беларушчына ўсё жыцьцё была пустым гукам... Што — гэта нашая палітычная будучыня? Так і будзем са сваімі беларускімі праблемамі ўсё жыцьцё хадзіць да іх на паклон?

Дык давайце ж падтрымліваць нашых сьведамых палітыкаў, дапамагаць і верыць ім, як прафэсіяналам, давайце будзем згуртаванымі і цярплівымі. Давайце будзем працаваць дзеля аднаго і біць у адно, не заступаючы самім сабе дарогу. Давайце ня грызьці адзін аднаго, бо нас ж яшчэ гэтак мала.

Прыйдуць яшчэ да нас лепшыя часы, і нашыя палітыкі, упэўнены, гэтаму паспрыяюць.

**Алесь Бяляцкі** (Наша Ніва)

*************************************************************

# У Латвіі ўспомнілі Янку Купалу

У адной з прэстыжных канцэртных залаў Рыгі -- "Аве сол" адбылася ўрачыстая вечарына ў гонар 120-годзьдзя з дня нараджэньня беларускага песьняра Янкі Купалы, арганізаваная Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны "Прамень" у Латвіі.

На вечарыне прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары, што жывуць у Латвіі.

З дакладам пра творчы шлях нацыянальнага паэта Беларусі выступіў галоўны рэдактар газеты беларусаў Латвіі "Прамень" Леанід Шакавец. Ён, у прыватнасьці, зазначыў, што дагэтуль мала хто з беларускіх аўтараў здолеў у сваіх творах настолькі поўна, як Янка Купала, адлюстраваць прыгажосць і глыбіню душы беларускага народа, яго любоў да роднай зямлі.

У выкананьні опернай сьпявачкі Ганны Крупскай і ансамбля "Надзея" прагучалі песьні на вершы класіка беларускай літаратуры.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ! Калі ласка, не забывайцеся перасылаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд «Беларускага Дайджэсту»...**


~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

# УНІКАЛЬНЫ СКАРБ ЗНОЙДЗЕНЫ Ў ВІЛЬНІ

Манэты 14 стагодзьдзя знойдзеныя ў Вільні пад гарой Гедыміна, на тэрыторыі Ніжняга замку. Скарб з 62-х срэбных манэтаў быў на глыбіні дзьвух мэтраў. Манэты знаходзіліся ў вільготнай глебе паміж рэшткаў будаўнічых матэр'ялаў і керамічных асклёпкаў, на плошчы каля 4 м. Манэты 4-х тыпаў, але ўсе аднога намінала. Гэта г. зв. грошы Ягайлы. Разам знойдзеная і палова манэтнага сьлітку, які мае ў разрэзе форму трохкутніка.

Частка знойдзеных манэтаў мае Пагоню з аднога боку, і двайны крыж – крыж Ягайлы – з другога. Ёсьць тры манэты з партрэтам Ягайлы ў кароне; манэты з "рыбай" (тыя што лічацца вельмі рэдкімі ) і манэты з выявай кап'я з крыжом і надпісам "паруску", як паведамілі цяперашнія літоўскія навукоўцы.

Знаходкі пакуль не дазваляюць фатаграфаваць і паказваць грамадзкасьці. Апрача манэт – драўляная водаправодная труба 14 ст., "гатычная" кафля.

Недалёка ад гістарычнага старога места ў Вільні распачатая яшчэ будоўля – падземныя аўтастаянкі пад праспэктам Гедыміна, недалёка ад Катэдральнага пляца. Там знайшлі:

Самыя старыя знаходкі на праспэкце Гедыміна датуюцца 15 альбо 16 ст – гэта рэшткі печаў і яма для прамысловых адкідаў, поўная жалезнага, меднага і бронзавага ліцьця, керамічных асклёпкаў, і побач рэшткі драўлянай і каменнай кладкі ад вялікага будынку 16 альбо 17 ст., які згарэў у 1655 г. – пад час вайны з Масковіяй. Насупраць былога кінатэатра "Віленскі" знойдзеныя пахаваньні – 8 трунаў; ў вадным са скелетаў --куля. Адзін з мясцовых літоўскіх археолягаў Л. Квізікявічус выказаў меркаваньне, што ва ўсіх трунах – забітыя ў часы перад паўстаньнем Касьцюшкі 1794 г. Больш пазьнейшыя знаходкі – частка вадаправоднага калектара 19 ст., на глыбіні 4 м. (на вул Урублеўскага) і драўляныя тратуары плошчаю 6,5 м каля Катэдральнага пляца. Археоляг Гедымінас Вайткявічус кажа, што гэтыя знаходкі абвяргаюць гіпотэзу што Вільня разьвівалася ад замку.

==================================

# III-я канферэнцыя беларусаў Балтыі.

13-14 ліпеня 2002 г. у Вільні прайшла III канферэнцыя беларусаў Балтыі. Арганізатарам каферэнцыі выступіла Таварыства беларускай культуры Літвы на чале з кіраўніком Хведарам Нюнькам. У працы форуму бралі ўдзел старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, старшыня Кансерватыўнай партыі БНФ Зянон Пазняк, спікер Вярхоўнага Савета 12 склікання Станіслаў Шушкевіч, кіраўнік ТБМ Алег Трусаў, акадэмік Радзім Гарэцкі, прэзідэнт МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" Анатоль Грыцкевіч і іншыя вядомыя асобы. Беларускую дыяспару далёкага замежжа прадстаўлялі Алена Міхалюк (Вялікая Брытанія), Янка Жучка (Бельгія), Міхась Навумовіч (Францыя). У канферэнцыі бралі ўдзел прадстаўнікі беларускіх дэлегацый з Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Расіі (Калінінграда), Чэхіі.

У адмысловым лісце Канферэнцыю прывітаў Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус, з трыбуны выступілі першы віцэ-спікер Сойму Літвы Чэславас Юршэнас, лідэр Партыі кансерватараў, былы кіраўнік Літвы Вітаўтас Ландсбэргіс; у залі таксама прысутнічалі кіраўнік камісіі па НАТА Літоўскага Сойму, беларус Вацлаў Станкевіч ды сябра Сойму Літвы, кіраўнік арганізацыі былых ссыльных і палітвязняў Літвы Антанас Стасічкіс.

Дэлегаты Канфрэнцыі абмеркавалі становішча ў Беларусі, праблемы ўступлення дзяржаваў Балтыі ў Еўразвяз і НАТА, а таксама іншыя пытанні, звязаныя з культурнымі і адраджэнскімі патрэбамі землякоў у гэтай частцы Еўропы. На Канферэнцыі былі прыняты наступныя выніковыя дакументы:

- Два звароты да Польскага ўраду з просьбай захаваць радыёстанцыі, якія транслююць на Беларусь з Польшчы (Радыё Рацыя і беларуская служба Radio Polonia).
- Рэзалюцыя па падтрымцы будучага ўступлення Літвы, Латвіі і Эстоніі ў НАТА і ў Еўрапейскі Эканамічны Звяз і заклік да Еўракамісіі не ізаляваць Беларусь ад Еўропы.
- Зварот, прысвечаны праблеме незалежнасці Беларусі.
- Зварот па праблеме адраджэння віленскага беларускага музею імя Івана Луцкевіча.

У межах культурнай праграмы Канферэнцыі былі арганізаваны экскурсіі па старым горадзе ў Вільні, выстава мастакоў-беларусаў з суполкі "Маю гонар" (Латвія), канцэрт гурта старажытнай музыкі "Стары Ольса" (Беларусь), арганізаваны пры дапамозе Згуртавання "Бацькаўшчына".

*********************************************

# ЗАЯВА ЎПРАВЫ ПАРТЫІ БНФ

27 ліпеня 1990 году Беларусь была абвешчаная сувэрэннаю дзяржаваю. Штогод гэты дзень адзначаўся як сьвята, бо наблізіў беларусаў да іхнае мары -- незалежнага бытаваньня ў цывілізаванай эўрапейскай дзяржаве. Менавіта таму лукашэнкаўская ўлада скасавала 27 ліпеня як сьвяточны дзень, а на тых, хто яго ўшаноўвае, нацкоўвае сваю ахранку.

Сёлета ў Менску Дзень абвешчаньня сувэрэнітэту 27 ліпеня адбываўся пад знакам салідарнасьці зь беларускаю незалежнаю прэсаю. Фронтаўская моладзь выступіла пад лёзунгам: незалежная прэса -- незалежная дзяржава. Акцыя ў цэнтры Менску на пляцы Новае Места (Кастрычніцкая плошча) была абсалютна мірная: сотня маладых людзей зладзіла "ланцуг незалежных выданьняў", раздаючы газэты, а таксама прапаноўваючы мінакам падпісацца пад заяваю ў Гарадзенскі абласны суд з прапановай скасаваць прысуд журналістам газэты "Пагоня". Групы маладафронтаўцаў па ходніках рушылі да розных дзяржаўных установаў, каб перадаць туды пэтыцыі з патрабаваньнямі свабоды прэсы.

Сутнасьць рэжыму Лукашэнкі застаецца ранейшай: змагацца з тымі, хто адстойвае сапраўдную незалежнасьць Беларусі…

===================================

# Украіна крочыць у ЕС

На Украіне працягваюць абмяркоўваць вынікі саміта «Украіна — Еўрапейскі Саюз», які нядаўна адбыўся ў сталіцы Даніі. Капенгаген быў выбран невыпадкова месцам сустрэчы — цяпер Данія старшынствуе ў ЕС. Афіцыйную ўкраінскую дэлегацыю ўзначальваў прэзідэнт Леанід Кучма. Дэлегацыя Еўрасаюза была прадстаўлена прэзідэнтам Еўрасавета, прэм'ерміністрам Даніі А. Расмусенам і іншымі афіцыйнымі асобамі.

Як паведаміла пасольства Украіны на Беларусі, саміт стаў важным крокам на шляху далейшага паглыблення адносінаў паміж Украінай і ЕС. Бакі выказалі жаданне ўмацоўваць стратэгічнае партнёрства. Прадстаўнікі ЕС віталі еўрапейскі выбар Украіны, яе імкненне ўзняць на якасна новы ўзровень стасункі з ЕС, высока ацанілі ўзаемадзеянне ў галіне юстыцыі і ўнутраных спраў. Кіраўнікі ЕС адзначылі, што хутчэйшае ўступленне Украіны ў Сусветную гандлёвую арганізацыю адпавядае інтарэсам абоіх бакоў. У Капенгагене была дасягнута дамоўленасць у бліжэйшыя месяцы падпісаць двухбаковы пратакол аб узаемным доступе на рынкі тавараў і паслуг.

Што датычыць прадастаўлення Украіне статуса краіны з рынкавай эканомікай, то прэзідэнт Еўрапейскай камісіі запэўніў, што яго структура ўважліва вывучае дадзенае пытанне. Адным са станоўчых вынікаў саміта стала падпісанне пагаднення аб навуковым і тэхналагічным супрацоўніцтве паміж Украінай і ЕС. Як вынікае з паведамлення пасольства, Еўрасаюз з цікавасцю ўспрыняў ініцыятыву прэзідэнта Украіны правесці летам наступнага года ў Кіеве сустрэчу міністраў замежных спраў краін-кандыдатаў і Украіны. На ёй Л. Кучма прапаноўвае абмеркаваць праблемы пашырэння ЕС, а таксама перспектывы адносін пашыранага склада ЕС і Украіны.

А што Беларусь? А Беларусь жыўцом лезе ў рускую Азію…

*********************************************



===================================

# Дзіцячы адпачынак

Дзякуючы Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" і персанальна спадарыні Ірэне Калядзе-Смірновў, 35 дзяцей з Беларусі здолелі пабачыць Варненскі курорт у Балгарыі, жыць у гатэлі "Маяк" у курортным комплексе Св. Канстанціна і Алены. І гэта толькі першая група з трох, якія накіроўвае гэтым летам на адпачынак "Бацькаўшчына". На адпачынак адправіліся дзеці, якія перамаглі ў конкурсе на лепшыя апавяданні пра Беларусь. На роднай мове ў Балгарыі ладзіліся вечарыны, адзначаўся дзень народзінаў, Купалле ды іншыя святы. Дзеці чыталі некалькі раздзелаў з кніжкі Уладзіміра Арлова "Адкуль наш род" і распавядалі, што даведаліся новага пра тыя ці іншыя падзеі беларускай гісторыі. Арловым дзеці зачыталіся, чыталі па начах, каб паспець перадаць іншаму. І ўсё роўна на ўсіх не хапіла. Невялікая лекцыя доктара і выдатнага знаўца гісторыі Віталя Кошалева перамяжалася аповедамі дзяцей аб гістарычных падзеях і вызначальных датах беларускай гісторыі. На Купальскую ноч на беразе Чорнага мора было раскладзена невялічкае вогнішча (за такую справу балгарам даюць да пяці гадоў турмы, але беларусы дамовіліся). Былі спевы. Была Купалінка, былі цікавыя конкурсы на завязванне вянкоў ад дзяўчынак, інсцэніроўкі беларускіх народных песень. Беларускія дзеці паказалі сябе сапраўднымі беларусамі і еўрапейцамі: з добрым выхаваннем, адукацыяй, культурай. За што і атрымалі вялікую падзяку ад кіраўніцтва гатэлю, сталоўкі і ад усіх, каго можна. У апошні дзень на моры дзяўчынкі плакалі. Плакалі ў цягніку. Плакалі на вакзале. Як спачатку некаму хацелася дадому, так напрыканцы не хацелася развітвацца з сябрамі і Балгарыяй.

---

# Дзевяць парадаў тым, хто хоча доўга жыць

Сёння ва ўсім свеце ўсё больш папулярным робіцца здаровы лад жыцця -- людзі займаюцца спортам, сочаць за станам свайго здароўя, правільна харчуюцца. І вось аб гэтым апошнім -- правільным харчаванні -- вырашылі яшчэ раз нагадаць…

Што такое здаровае харчаванне? Гэта такое харчаванне, якое трымае ў норме нашую вагу і падтрымлівае добрае здароўе. Цяпер лета, а калі нехта із нашых чытачоў набраў за зіму лішнюю вагу, зараз самы час пазбавіцца ад яе. Не забудзьцеся, што празмерная вага выклікае:

-- хуткае старэнне суставаў і дэградацыю храшчоў пазваночніка; мы рызыкуем апынуцца на інваліднай калясцы;

-- у людзей з празмернай вагой вельмі часта зьяўляецца дыябет і падвышаны крывяны ціск;

-- хутка развіваецца атэрасклероз, які прыводзіць да амярцвення мазгавой тканкі і ўзрастання рызыкі інсультаў і інфарктаў;

-- непрывабны знешні выгляд выклікае праблемы ў школе ў тоўстых дзяцей, у дарослых -- празмернае паценне, праблемы з сексуальным жыццём.

Сёння медыкі распрацавалі так званыя 10 парад здаровага харчавання, якія шырока распаўсюджаныя найперш у развітых краінах свету. Вось яны:

1. Аддавайце перавагу разнастайнай ежы.
2. Абмяжуйце ў сваім меню жывёльныя тлушчы, спажывайце болей алеяў.
3. Спажывайце малако і малочныя вырабы з паніжаным утрыманнем тлушчу.
4. Старайцеся менш есці мяса, а болей рыбы.
5. Менш саліце ежу.
6. Не менш за 4--5 разоў на дзень ешце садавіну і гародніну.
7. Абмяжуйце спажыванне цукру, аддавайце перавагу цэльназерневым хлебным вырабам і печыву.
8. Абмяжуйце колькасць спажываных яек і вантробаў.
9. Ужывайце дастатковую колькасць неалкагольных вадкасцяў…

# У Беларусі пражываюць 805 грамадзянаў, якім больш за 100 гадоў

З іх 179 — жыхары Мінскай вобласці, 163 — Гродзенскай. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, у мінулым годзе колькасць доўгажыхароў складала 984 чалавекі.
У краіне цяпер пражываюць больш як 2 мільёны 114 тысяч чалавек, старэйшых за людзей працаздольнага ўзросту. З іх 80 гадоў ужо адзначылі 107 тысяч чалавек, 85 гадоў — 56 тысяч, дзевяць дзесяткаў маюць за плячамі 21 тысяча чалавек. А ўзростам ад 95 да 99 гадоў могуць пахваліцца 487 грамадзянаў Беларусі

+++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

**У верасьні 1991-га году бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі Незалежнай Беларусі. Шануйма-ж іх!!!**

# *Нам Пішуць...*

## *АЎСТРАЛІЯ*

У нядзелю 30-га чэрвеня 2002 г. Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі, Аўстралія, адзначыў 58-я ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Айцец А. Кулакоўскі адслужыў малебень з нагоды гэтай важнай падзеі ў гісторыі Беларусі, ў БАПЦаркве сьвятых Віленскіх Мучанікаў.

Пасьля службы, старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі сп. Аўген Груша прывітаў прысутных, прачытаў прывітаньні і запрапанаваў хвілінай цішыні ўшанаваць памяць тых, што аддалі сваё жыцьцё, каб жыла Беларусь.



Кароткі рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. А. Шнэк. А на заканчэньне афіцыйнай часткі сп-ня Вера Шайпак і Аўген Груша хораша прачыталі ідпаведныя вершы, а тады ўсе разам, традыцыйна, прасьпявалі наш гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

Сяброўская бяседа закончылася супольным пачастункам, успамінамі з мінулых дзён і пажаданьнямі сустрэць наступныя 59-я ўгодкі з такім-жа самым запалам. *А. Шнэк.*

* * *

## Палякі ў Чыкага губяць сваё значэньне

Свайго часу палякі ў Чыкага былі моцнаю сілаю, — чатыры кангрэсманы польскага паходжаньня прадстаўлялі іх у амэрыканскім Кангрэсе ў Вашынгтоне, мелі вялікія ўплывы ў адміністрацыі гораду і штату. Ды лік палякаўамэрыканцаў упаў да найніжэйшай ступені ў апошніх гадох.

Пасьля II-е Сусьветнае вайны ў Чыкага пражывала каля 600.000 - 700.000 палякаў, гэта больш чым у якім іншым месцы за выняткам Варшавы. Цяпер іх у Чыкага, паводле апошняга перапісу насельніцтва, налічваецца 219.421. Гэта 20%-вы спад з 261.899 асобаў у 1990 годзе.

У гэты самы час гішпанская меншасьць вырасла на 38% — да 753.644 асобаў, што складае амаль чвэрць з 2,9 мільёнаў насельніцтва Чыкага.

Зьмяншэньне польскай палітычнай сілы ў Чыкага зьяўляецца наступствам асыміляцыі і міграцыі з этнічных асяродкаў у прыгарады. Менш людзей, наогул, прызнаюцца да свайго эўрапейскага паходжаньня. Пасьля трох генерацыяў у Амэрыцы этнічныя рысы меншасьцяў пачалі зьнікаць.

Некаторыя назіральнікі прадбачаць, што недалёкі той час, калі насельніцтва вялікіх амэрыканскіх гарадоў будзе складацца ў 80% з гішпанамоўных і афрыканскага паходжаньня насельнікаў.

А тым часам Эўропа багацее, мацнее і ўсебакова разьвіваецца, можа за выняткам былога абшару Савецкага саюзу... На сьвеце адбываюцца вялікія перамены, ня толькі ў Чыкага... Я.

## У Саўт Рывэры, ЗША

4-ты “Беларускі Фэстываль”, нягледзячы на пахмурную пагоду, прайшоў надзвычай удала. Было шмат прысутных з блізкіх і далёкіх ваколіцаў. Былі людзі з Канады, Канэктыкут, Нью-Ёрку, Пэнсыльваніі ды іншых штатаў, былі нават і з Беларусі. Былі розныя беларускія традыцыйныя стравы, розныя латарэі і, як заўсёды, — беларуская народная музыка і сьпевы. Так як і ў мінулыя гады выступалі сям’я Казакоў — трыо, на чале з Валяй Пархоменка, яе мужа Алеся і іх дачкі Волі.



Сьпявае Валя Казак.

Выглядала, што прысутныя былі задаволеныя, а таксама быў ладны прыход для царквы сьв. Еўфрасініі Полацкай у Саўт Рывэры. Найбольшая падзяка належыцца сп-ні Соні Арцюшэнка і яе супрацоўнікам. *Ж. Н.*

Шаноўны сп. Пруські!

Прачытала ў газэце “Беларускі Дайджэст” аб сьмерці мітрапаліта Ўладыкі Мікалая. Я яго знала з Англіі. Вельмі добры і вельмі пабожны чалавек. Няхай будзе яму пухам чужая зямель ка. Вечная Памяць!

Замест кветак на магілу, пасылаем ахвяру на газэту “Беларускі Дайджэст”.

З пашанай, *Я. К. Вініцкія.*

## Помнік Міколу Улашчыку

У музэі выяўленчага мастацтва “Фонд А. Белага” ў г. Старыя Дарогі пастаўлены новы помнік выдатнаму беларускаму гісторыку Міколу Улашчыку. Гэта другі помнік пастаўлены на працягу году і восьмы за час стварэньня музэя. Помнік уяўляе сабою камень-волат з чырвонага фінскага граніту.




А. Белы ля помніка М. Улашчыку

Помнік Міколу Улашчыку стаіць побач з помнікам Ларысы Геніюш, і гэта вельмі сімвалічна, бо гэта першыя на Беларусі помнікі паліткатаржанам. Абое пацярпелі за Беларусь. Гэтыя дзеячы зьяўляюцца сімвалам самаахвярнасьці ў справе беззапаветнага служэньня нашай Бацькаўшчыне-Беларусі... Мікола Улашчык і Ларыся Геніюш належаць усёй Беларусі. *А.*

Паважаны сп. Рэдактар!

Прачытаўшы ў апошнім № “БД” артыкул — “Пішам, ходзім, просім, пераконваем” ды і шмат іншых падобных плаксіва-дзіцячых пісаньняў, мяне агарнулі сорам і балючасьць за беларускі народ.

У ва ўсіх нашых бедах і крыўдах мы шукаем вінаватых нядобразычліўцаў ня там, дзе яны загнездзіліся, а блукаем у пацёмках без належнае накіраванасьці і мэты.

Кожнаму вядома, што ўладныя структуры ў Беларусі абселі, як чорныя крумкачы, розныя чужыя прахадзімцы, хамы, няўдачнікі і свае гадоўлі халуі.

У сваёй краіне хадзіць да іх з просьбамі дазволіць нам беларусамі звацца, ды намагацца пераконваць іх у іхняй нікчэмнасьці, няма ніякага сэнсу.

Яны-ж ворагі-паразіты і ўсякае масьці чужыя агенты стараюцца і будуць намагацца зьнішчыць усё беларускае ды загнаць беларусаў у чужую няволю, зрабіць іх халуямі і парабкамі....

Вось-жа не прасіць і пераконваць іх трэба, а трэба з імі адважна змагацца... Калі яны дубінкамі, судамі і брутальнай сілай б’юць нас балюча за нашу беларускую нацыянальную сьвядомасьць, за нашу любоў да роднае зямлі, за родную мову і за ўсё беларускае — мы мусім і павінны сілаю, калі трэба нават збройнаю, даваць ім адважны адпор, наступаць на іх рашуча, каб ворагі беларушчыны на беларускай зямлі адчулі жар пад нагамі...

Настаў час выбару, або яны брутальна зьнішчаць нас, або мы пераможам іх.. На мой погляд іншага выхаду пакуль не відаць... Без адкрытага збройнага змаганьня з чужымі захопнікамі перамогі ня будзе...

Жыве Беларусь! S. W.



## “ВЕК ТАК НЯ БУДЗЕ” — НОВАЯ КНІГА ПРА РЭПРЭСІІ Ў БЕЛАРУСІ

Век так ня будзе — гэтыя словы наўздагон Надзеі Дземідовіч крыкнула маці, калі энкавэдысты заштурхоўвалі 20-гадовую дзяўчыну ў варанок, каб адправіць у сыбірскія лягеры ў 1950 годзе. Надзея памятала тыя словы ўсе шэсьць гадоў зьняволеньня. Яны дапамаглі выжыць падчас задушанага ў крыві паўстаньня вязьняў у Кінгірскім лягеры, яны й па сёньня застаюцца актуальнымі. Таму словы “Век так ня будзе” сталіся назвай кнігі. Гаворыць Надзея Дземідовіч:

(Дземідовіч:) “Я хачу, каб людзі пачулі, якія ў нас былі жахі падчас гэтага жыцьця савецкага, і за што нас гналі ў тую Сыбір, і за што нас зьнішчалі. Яна для таго патрэбная, каб нашае маладое пакаленьне не хацела далучацца да Расеі, каб ведалі, што нас чакае там”.

Адзін з разьдзелаў выданьня — “Радкі з-пад сэрца” — складаюць вершы аўтаркі, кніга мае шмат фотаздымкаў. Ідэі незалежнасьці, нацыянальнай годнасьці беларусаў спадарыня Надзея пакязала праз лёс сваёй сям’і, дзе бацькі й двое дарослых дзяцей былі рэпрэсаваныя, а малодшыя сталіся дзьцьмі ворагаў народу, зьведаўшы нястачу й голад. Такой кнігі ў Беларусі яшчэ не было, — кажа адказная за выпуск Алена Арэшка.

(Арэшка:) “Гэта запіс простай беларускай жанчыны, якая востра адчувала несправядлівасьць таго жыцьця, наколькі яно было жорсткім. Гэта стогн душы, і такой кнігі ў нас яшчэ не надрукавана. Ёсьць, канечне, кнігі прафэсійных аўтараў. Але з гушчы жыцьця нашага беларускага — такой кнігі яшчэ не было”.

Да шырокага кола чытачоў кніга “Век так ня будзе” наўрад ці дойдзе, бо выходзіць за асабістыя грошы спадарыні Надзеі й мае наклад усяго 350 асобнікаў. А па-другое — нават гэтую колькасьць бывае цяжка распаўсюдзіць, бо дзяржаўныя крамы такія выданьні прадаваць баяцца. Сумны досьвед гэтага мае грамадзкае аб’яднаньне “Дыярыюш”, якое выбучае гісторыю рэпрэсіяў у Беларусі. Гаворыць каардынатар праектаў Вацлаў Арэшка:

(Арэшка:) “Такія кнігі шырокай дарогі ня маюць. Многія крамы пыталіся, ці ёсьць дазвол на продаж такіх кніг, хоць яны былі абсалютна законна афармленыя. Не змагу пералічыць усіх, але “Слоўнік дэмакратычнай апазыцыі” ў продаж ня трапіў, бо яго ніхто не хацеў браць”.

Але век так ня будзе, — перакананая Надзея Дземідовіч, якая намерваецца напісаць працяг сваіх успамінаў. Гэткага ж меркаваньня трымаюцца і ў “Дыярыюшы” ды рыхтуюць другі том кнігі “Індэкс рэпрэсаваных Беларусі” — пра забітых у падмаскоўных лягерах беларусаў.

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Дванаццатка.** Янка Запруднік, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Нью-Ёрк, 2002, 510 бач. Вельмі цікавая і выдатна напісаная дакумэнтальная аповесьць.
2. **Кантакты і Дыялогі,** № 5-6, 2002, Менск, 65 бач.
3. **Камунікат,** № 1, 2002, Варшава, 48 бач.
4. **Czasapis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 7-8, Беласток, 2002, 76 бач.
5. **Роднае Слова.** № 6, 2002, Менск, 114 бач.
6. **Яшчэ раз аб нацыянальнай ідэі беларускага народа.** Сямён Шарэцкі, Вільня, 86 бач.